ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№42 (2548)

16 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.



# МІРСКІ ЗАМАК — ПОМНІК СЛАВУТЫ

У Мірскім замку мы былі ў сярэдзіне верасня. Дзянёк выдаўся прыгожы — сонечны, цёплы. У двары замка ціха, утульна.

Калі глядзеў на магутныя сцены, падумалася пра вечнасць, пра неўміручасць чалавека, пра тых, каго ўжо даўно няма, а зробленае іх рукамі — вось яно, перад табой. Дакладней — вакол цябе: замкавы двор амаль круглы. Высокія сцены дыхаюць сівой мінуўшчынай.

**НА ЗДЫМКУ: адна з вежаў Мірскага замка.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## ХОСПІСЫ — З'ЯВА Ў НАШЫМ ЖЫЦЦІ НОВАЯ

# ДАПАМАГЧЫ БЕЗНАДЗЕЙНА ХВОРЫМ

Ва ўсім свеце аб хоспісах ведаюць даўно, называючы так установы, дзе безнадзейна хворым людзям дапамагаюць без болю і лішніх пакут пакінуць гэты свет, забяспечыўшы медыцынскі догляд і максімум чалавечай увагі. Радзіма хоспісаў — Англія, дзе ў былыя часы так называлі манастырскія прытулкі, у якіх прымалі паломнікаў, што ішлі ў Іерусалім пакланіцца труне Гасподняй. Паступова туды сталі збіраць хворых і бяздомных бадзяг, якіх ці вылечвалі, ці хавалі за кошт тых жа манастыроў.

Першы хоспіс у нашым сённяшнім разуменні быў створаны таксама ў Англіі ў 1986 годзе, аднак за мінулы з той пары час гэтая ідэя на Захадзе змянілася, што і ўбачыла Ганна Гарчакова, псіхолаг Рэспубліканскага гематалагічнага цэнтра, трапіўшы некалькі гадоў назад па службовых справах у Амерыку. Сённяшні хоспіс — гэта сістэма, і не толькі медыцынскай дапамогі, а погляду і светаўспрымання, своеасаблівая філасофія грамадства, якое зразумела, што, калі ў сілу абставін далейшае жыццё немагчымае і чалавек хутка памрэ, трэба зрабіць так, каб астатні час ён пражыў па магчымасці без пакут. І для гэтага зусім не абавязкова збіраць смяротна хворых у адно месца, значна лепш і зручней, калі добра абучаныя медсёстры, свяшчэннікі і ўрачы аказваюць такую дапамогу дома. Па гэтаму шляху сёння пайшлі ў Амерыцы і Англіі, захоўваючы толькі для асобых выпадкаў па восем ложкаў у стацыянарах, дзе абслугоўваюць іх — гэта не памылка — па 250 чалавек персаналу. У нашым жа хоспісе для смяротна хворых дзяцей, які два гады назад стварыла Ганна Гарчакова, горад Мінск і прылеглыя вёскі абслугоўваюць 22 чалавекі.

У пачатку свайго існавання хоспіс быў адной з праграм дзейнасці Рэспубліканскага гематалагічнага цэнтра. Паступова ідэя аформілася і стала самастойнай. Сёння Ганна

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## *ДА 105-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗОСЬКІ ВЕРАС*



**Яна была выдатнай Асобай. Вынаходлівае на выпрабаванні жыццё сагнула яе постаць, але маладой, шчодрай і дапытлівай заставалася душа. Яе разумныя вочы ўважліва і ўсмешліва ўглядаліся ў субяседніка, якога не магло не ўражваць тое, пра што ведала і ахвотна расказвала сваім шматлікім гасцям і наведвальнікам Зоська Верас. Доўгія гады яна была своеасаблівым энцыклапедычным даведнікам, які жывіў пісьменнікаў, навукоўцаў, мастакоў, журналістаў.**

**Зоську Верас яны ўспамінаюць з замілаваннем і ўдзячнасцю.**

**Юбілею Зоські Верас прысвечаны матэрыялы на 6-й стар.**

## З ЛАТВІІ

# ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

13—14 верасня ў Даўгаўпілсе прайшлі Дні беларускай культуры. Яны пачаліся з малебна ў Барыса-Глебскім кафедральным саборы за Беларусь і беларускі народ. Затым на будынку (Варшавас, 16), дзе з 1922 па 1935 год працавала Дзяржаўная беларуская гімназія, была адкрыта мемарыяльная дошка. (Якраз споўнілася 75 гадоў з часу адкрыцця гэтай гімназіі). Урачыстасць пачалася з хвіліны маўчання ў гонар настаўнікаў і вучняў, якія працавалі і вучыліся ў Беларускай гімназіі і ўжо адышлі ў лепшы свет. Гонар адкрыць дошку выпаў старшыні рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" спадарыні Ганне Сурмач і былой гімназістцы гэтай навучальнай установы спадарыні Яўгеніі Васільевай. Мемарыяльная дошка была асвячона настаўцелем Барыса-Глебскага сабора айцом Георгіем і настаўцелем касцёла святых Пятра і Паўла дэканам Мадэланам. З прывітальнымі словамі і словамі ўдзячнасці выступілі першы намеснік старшыні Даўгаўпілскай гарадской думы спадарыня Рыта Стродэ і спадарыня Ганна Сурмач. Старшыня таварыства дружбы "Беларусь—Латвія" паэт Сяргей Панізьнік, прывітаўшы прысутных, коратка расказаў аб выкладчыках і вучнях гэтай гімназіі. Свой верш, прысвечаны гэтым людзям, прачытаў Станіслаў Валодзька. Словы прамоўцаў чаргаваліся з гучаннем скрыпкі (быў тут і паланез Агінскага) і цымбалаў. На столік пад мемарыяльнай дошкай, накрыты ручніком, на якім гарэлі свечкі, былі ўскладзены кветкі. Кветкі і свечкі былі таксама і на магілах настаўнікаў Беларускай гімназіі, якія пахаваны на даўгаўпілскіх могілках, і на магіле дырэктара гэтай гімназіі Сяргея Сахарава, які пахаваны на рыжскіх могілках. А ў заключэнне гэтай імпрэзы, працягваючы Дні беларускай культуры, віцебскі ансамбль музыкі, песні і танца "Талака" і ансамбль беларускай суполкі "Уздым" у горадзе Даўгаўпілсе "Купалінка" разам у карагодзе выканалі беларускую народную песню "Купалінка".

Свята мела працяг у салоне "Мара" даўгаўпілскага краязнаўчага музея, дзе была адкрыта выстава аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". Тут да прысутных звярнулася старшыня Віцебскага гарадскога савета спадарыня Ларыса Аленская. Аўтар гэтых радкоў прачытаў свой верш, прысвечаны віноўнікам урачыстасці. Старшыня аб'яднання "Маю гонар" спадар Вячка Целеш выказаў падзяку за добрыя словы і спадзяванне на новыя сустрэчы.

Затым у канферэнц-зале Даўгаўпілскай гарадской думы была адкрыта невялікая выстава беларускіх народных вырабаў, кніг, альбомаў, якія расказваюць аб жыцці мясцовых беларусаў. Тут прайшла і навукова-практычная канферэнцыя. З цікавымі, змястоўнымі дакладамі выступілі прафесар Латвійскага універсітэта, габілітаваны доктар гісторыі спадарыня Ілга Апінэ, спадары С. Панізьнік і В. Целеш, сябар рады беларускага таварыства "Уздым" гісторык па адукацыі спадар Мікола Паўловіч. Сваімі ўспамінамі падзялілася вышэйзгаданая спадарыня Я. Васільева.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*У АФІЦЫЙНЫМ ЛЮСТЭРКУ*

## ПРЭЗІДЭНТ РАЗУМЕЕ КАМУНІСТАЎ — КАМУНІСТЫ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ ПРЭЗІДЭНТА



Прэзідэнт Беларусі, які прыйшоў да ўлады як незалежны чалавек, не ўваходзіць ні ў адну з палітычных партый. Але як кіраўнік дзяржавы, ён вядзе дыялог з тымі, хто разумее і падтрымлівае палітыку беларускіх улад, накіраваную на сацыяльную абарону насельніцтва. Аб гэтым заявіў 6 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прадстаўнікамі замежных дэлегацый, якія прымалі ўдзел у рабоце праведзенага ў Мінску 34-га з'езда Камуністычнай партыі Беларусі. На з'ездзе было зачытана прывітанне А. Лукашэнкі камуністам. Такога гонару пакуль не мела ніводная партыя ў Беларусі.

Звяртаючыся да гасцей, Прэзідэнт падкрэсліў, што ён падтрымлівае галоўную задачу, якую ставяць перад сабой прадстаўнікі гэтага руху, — абарону інтарэсаў працоўных.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што не можа сцвярджаць, быццам ён згодны абсалютна з усім, што сёння адбываецца ў камуністычным руху, якому, паводле яго слоў, часта не хапае гібкасці. "Але ў нас вельмі шмат падобнага ў падыходах да сацыяльнай абароны чалавека, у адстойванні міру і бяспекі на Еўрапейскім кантыненце".

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Прэзідэнта А. ЛУКАШЭНКІ з прадстаўнікамі замежных дэлегацый, якія прымалі ўдзел у з'ездзе камуністаў у Мінску.

*ЗАБОЙСТВА Ў МАГІЛЁВЕ*

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫМАЕ ВЫКЛІК

Раніцай 6 кастрычніка ў Магілёве ў пад'ездзе ўласнага дома ў выніку выбуху быў забіты дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці Яўген Мікалуцкі і паранена яго жонка.

Узрыўная прылада была ўманціравана ў смеццеправодзе на лесвічнай пляцоўцы паміж чацвёртым і пятым паверхамі і спрацавала, калі Яўген Мікалуцкі выходзіў са сваёй кватэры на работу. Спецыялісты мяркуюць, што яна была дыстанцыйна кіруемай.

Яўген Мікалуцкі памёр на месцы. А жонка з цяжкімі раненнямі дастаўлена ў бальніцу, і ўрачы спадзяюцца выратаваць ёй жыццё.

Няма сумнення, што гэта было заказное забойства.

— Гэта гнюснае злачынства ўчынена не выпадкова, — заявіў перад тысячамі магілёўчан Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які прыехаў развітацца з саратнікам. — Яны доўга падбіраліся да мяне, але не атрымалася. Вырашылі пачаць з тых, хто побач са мной, хто змагаўся з нечысцю. Я разумею, што гэта выклік. І хачу аб'явіць нечысці, што выклік я прымаю.

Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў ад праваахоўных органаў і ўлады на месцах неадкладна караць па ўсёй строгасці закона любое, нахай нават самае дробнае правапарушэнне і злачынства. Ён папярэдзіў "усіх, хто дзейнічае на ніве брудных грошай":

— У вас дзесяць дзён, каб разлічыцца з дзяржавай, выплаціць ёй даўгі.

Прэзідэнт паабяцаў, што пад нагамі тых, "хто замахнуўся на дзяржаўную ўладу", будзе "зямля гарэць".

*МЫТНЯ*

## ПАД НАГЛЯДАМ ПРАКУРАТУРЫ

На пасяджэнні калегіі рэспубліканскай Пракуратуры пад старшынствам Генеральнага пракурора Алега Бажэлкі абмеркаваны вынікі праверак мытных органаў. На жаль, захоўваецца тэндэнцыя да павелічэння колькасці парушэнняў мытнага заканадаўства. Часта няправільна налічваюцца сумы плацяжоў. Ацэнка і захаванне канфіскаваных матэрыяльных каштоўнасцей нярэдка ажыццяўляюцца без наяўнасці пацвярджаючых дакументаў і ўдзелу спецыялістаў, не выконваюцца тэрміны захоўвання... За 7 месяцаў бягучага года ўжо выяўлена больш за 24 тысячы правапарушэнняў, звязаных з незаконным перамяшчэннем рэчаў і каштоўнасцей праз таможную мяжу. Канфіскавана матэрыяльных каштоўнасцей на суму больш за 394 мільярды рублёў.

Калегія звярнула ўвагу, што пры разглядзе крымінальных спраў у адносінах работнікаў таможні суды праяўляюць неабгрунтаваную лаяльнасць. За 2 апошнія гады за службовыя злачынствы асуджаны больш 30 работнікаў таможных органаў, з якіх досыць працяглыя тэрміны пазбаўлення волі атрымалі толькі 10 чалавек. Пры гэтым з 15 асуджаных за хабар максімальны тэрмін, прадугледжаны адпаведным артыкулам, не атрымаў ніхто. А між тым работнікі пракуратуры прапаноўвалі суду прымяніць больш строгія меры пакарання.

У сувязі з тым, што крымінальная абстаноўка на беларускай таможні застаецца цяжкай, Генеральны пракурор Алег Бажэлка запатрабаваў ад падначаленых узмацніць работу ў гэтым напрамку. Калегія вырашыла ў розных аддзяленнях Пракуратуры рэспублікі стварыць структуры па нагляду за выкананнем мытнага заканадаўства.

*КАНГРЭС ЦЫМБАЛІСТАЎ*

## ІГРАЮЦЬ СЭРЦАМ

Гала-канцэртам удзельнікаў IV Сусветнага кангрэса цымбалістаў завяршыўся гэты музычны форум 5 кастрычніка ў Магілёве. На працягу пяці дзён дэлегацыі з 14 краін, якія прадстаўлялі чатыры кантыненты планеты, дэманстравалі цымбальнае мастацтва сваіх народаў, абмяркоўвалі праблемы яго далейшага развіцця, формы ўзаемаабмену паміж музыкантамі і краінамі.

Падводзячы вынікі гэтага кангрэса, прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі цымбалістаў, таленавіцейшая выканаўца на гэтым інструменце, салістка Венгерскай оперы і нацыянальнага радыё Вікторыя Херэнчар падкрэсліла: "Калі ў пачатку 90-х гадоў, калі была заснавана наша асацыяцыя, у яе ўваходзілі толькі 28 удзельнікаў, то сёння ў яе шэрагах налічваецца каля тысячы выканаўцаў — як асобных, так і ў складзе груп і ансамбляў. Сёлетні кангрэс стаў больш прадстаўнічым. Да традыцыйных удзельнікаў дабавіліся дэлегацыі з Малдовы і Сінгапура. Музыканты абмяняліся вопытам, нотамі, партытурай. Я асабіста ўжо была знаёмая з беларускай школай цымбальнага мастацтва. Але многія ўдзельнікі кангрэса, што ўпершыню прыехалі ў Беларусь, былі прыемна здзіўлены найвышэйшым выканаўчым майстэрствам тутэйшых цымбалістаў, якія ў літаральным сэнсе іграюць сэрцам, укладваючы ў музыку ўсю сваю душу".

*ПЕРШЫ З'ЕЗД НАСТАЎНІКАЎ*



4—5 кастрычніка ў сталіцы Беларусі Мінску адбыўся І з'езд настаўнікаў Беларусі. На ім з праграмовай выступіў Прэзідэнт краіны А. Лукашэнка.

Завяршыўся І з'езд настаўнікаў віншаваннем прызёраў рэспубліканскага конкурсу педагагічнага майстэрства "Хрустальны журавель-97". Уладальнікам галоўнага прыза стала Валянціна Грынчук, намеснік дырэктара ашмянскай СШ — ёй было прысвоена званне "Заслужаны настаўнік" і ўручаны ключы ад аўтамабіля "Жыгулі". Пераможца і яшчэ пяць лаўрэатаў кожны месяц да наступнага конкурсу будуць атрымліваць прэзідэнцкую стыпендыю ў памеры двух мільёнаў рублёў. 14 фіналістаў конкурсу таксама ўзнагароджаны стыпендыямі ў памеры аднаго мільёна рублёў.

НА ЗДЫМКУ: Валянціна ГРЫНЧУК арымлівае з рук Прэзідэнта "Хрустальны журавель" і ключы ад аўтамабіля.

*НЕЙРАХІРУРГ І. АНТОНАЎ*

## ЧАЛАВЕК ГОДА І СТАГОДДЗЯ

Міжнародная даследчая камісія Біяграфічнага інстытута ЗША прысудзіла беларускаму вучонаму Ігнату Антонаву, які ўзначальвае рэспубліканскі Навукова-даследчы інстытут неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі званне "Чалавек года-97". Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, гэты год прынёс яшчэ адно міжнароднае прызнанне Ігнату Антонаву. Па прапанове Міжнароднага біяграфічнага цэнра ў Кембрыджы імя акадэміка будзе ўнесена ў выданне "2 000 выдатных людзей XX стагоддзя".

*«ВОСЕНЬ-97»*



Ва ўсіх раёнах беларускай сталіцы прайшоў традыцыйны мінскі кірмаш "Восень-97". Тут па даступных цэнах можна было купіць сельскагаспадарчыя прадукты. Гародніну і іншую прадукцыю прывезлі гаспадаркі ўсіх раёнаў Мінскай вобласці. Так многія зрабілі сабе запасы на зіму.

НА ЗДЫМКУ: ля гандлёвых радоў кірмашу "Восень-97".

*ЧЫРВОНАЯ КНІГА*

## УНІКАЛЬНАЕ ВОЗЕРА

Адразу тры віды раслін, занесеных у Чырвоную кнігу рэспублікі, выявіла на возеры Брodна ў Расонскім раёне навуковая экспедыцыя Віцебскага дзяржаўнага універсітэта. Сярод надзвычай багатага раслiннага свету вадаёма знойдзены цэлыя зараснікі крайне рэдкай лабеліі Дортмана. Пасяліліся тут таксама гарлачык белы і палушнік азёрны. На думку ўдзельнікаў экспедыцыі, на возера Бродна павінен распаўсюджвацца рэжым ахоўнага аб'екта.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

КАНФЕРЭНЦЫЯЙ па праблемах беларуска-брытанскага дзелавога супрацоўніцтва адкрыліся Дні Рэспублікі Беларусь у Лондане.

ВАЕННЫМ парадам, канцэртамі і спартыўнымі спаборніцтвамі, вялікім кірмашом адзначылі жыхары Асіповіч 125-годдзе свайго горада.

ТАВАРЫСТВА "Праваслаўная ініцыятыва" ўжо сабрала ў Мёрах 600 подпісаў за ўвядзенне ў школах прадмета "Закон Божы".

ПЕРШЫМ банкрутам на вёсцы стаў саўгас "Падароск" у Ваўкавыскім раёне Гродзенскай вобласці, які літаральна днямі спыніў сваё існаванне.

ЗГОДНА з праектам прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 1998 год, на наступны год у краіне плануецца ўвесці 3 мільёны 825 тысяч квадратных метраў жылой плошчы — на 17,6 працэнта больш за сёлетні.

У ГРОДНЕ прайшла III Міжнародная канферэнцыя, прысвечаная творчасці вядомай пісьменніцы Элізы Ажэшка, у якой прынялі ўдзел навукоўцы і літаратары Беларусі і Польшчы.

ТЫДЗЕНЬ МАЦІ, арганізаваны Беларускім саюзам жанчын пры падтрымцы Міністэрства сацыяльнай абароны, прайшоў ва ўсіх рэгіёнах краіны з 7 па 14 кастрычніка.

НА ТРЫ ВЁСКІ стала менш у Лідскім раёне: у Багатках, Борках і Кадаўбах не засталося ніводнага жыхара, і паселішчы зняты з уліку мясцовымі ўладамі.

ПЕРШАЯ начлежка — прытулак для бяздомных у хуткім часе "ўпрыгожыць" сталічны Мінск, але месца размяшчэння яе пакуль трымаецца ў сакрэце.



**Будаўніцтва каменнай царквы, якая дзейнічае сёння ў Оршы, было закончана ў 1880 годзе. З таго часу і ўзвышаецца на беразе Дняпра гэты велічны крыжова-купальны храм. Яго акружае высокая каменная сцяна з контрфорсамі і дэкаратыўнымі вежамі.**

**Багатае ўнутранае ўбранне Ільінскай царквы (на здымку). Тут можна ўбачыць старадаўнія кнігі, іконы ў цудоўных аправах, старыя званы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# ГІНУЦЬ ЛЮДЗІ НА ВЫТВОРЧАСЦІ

За восем месяцаў бягучага года ў вобласці ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінула трыццаць чалавек, шэсцьдзесят два атрымалі цяжкія траўмы.

Як расказаў начальнік абласнога ўпраўлення Камітэта па інспекцыі працы Уладзімір Хвалюк, за гэты час інспектары праверылі больш за 1 500 арганізацый і прадпрыемстваў розных форм уласнасці. У ходзе праверак было выяўлена каля 25 тысяч парушэнняў правіл тэхнічнай бяспекі і аховы працы, 586 службовых асоб і 324 наймальнікі былі аштрафаваны. Агульная сума штрафаў склала 385 мільёнаў рублёў.

Асабліва драматычная сітуацыя з траўматызмамназіраецца ў аграрным сектары. Па вёсках усё больш гіне механізатараў. Менш ахвяр у такіх галінах народнай гаспадаркі, як прамысловасць, сувязь, будаўніцтва і транспарт.

Сярод асноўных прычын няшчасных выпадкаў Уладзімір Міхайлавіч адзначыў невыкананне работнікамі элементарных правілаў тэхнічнай бяспекі, знос абсталявання і недасканалую тэхналогію. Да таго ж часта адсутнічае належны кантроль за гэтым з боку кіраўніцтва прадпрыемстваў і арганізацый. Часам не хапае спецыялістаў па ахове працы, асабліва адчувальны іх недахоп у сельскай мясцовасці. Так, у Ганцавіцкім раёне з чатырнаццаці гаспадарак адпаведныя спецыялісты ёсць толькі ў дзвюх.

Асноўнай мерай уздзеяння з боку інспекцыі на парушальнікаў працоўнага заканадаўства з'яўляюцца сёння штрафы. Да прыкладу, за процідзеянне з боку наймальніка рабоце інспектараў, што праводзяць праверку, і невыкананне іх прадпісанняў накладаецца штраф памерам ад 5 да 50 мінімальных заработных плат. Калі зафіксавана прамое парушэнне заканадаўства аб працы, начальнік абласной інспекцыі мае права аштрафаваць наймальніка на суму да 150 мінімальных зарплат, а начальнік рэспубліканскай інспекцыі, гэта значыць галоўны дзяржаўны інспектар, — да 300 "мінімалак". Шмат спраў перадаецца на разгляд у пракуратуру.

Кожная смерць ад няшчаснага выпадку на вытворчасці абыходзіцца грамадству амаль у 72 тысячы долараў. Сумная арыфметыка.

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**
Брэст.

# ДАПАМОГА БЕЗНАДЗЕЙНА ХВОРЫМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Рыгораўна разглядае створаны ёю хоспіс як філасофію дапамогі безнадзейна хворым дзецям і іх сем'ям.

Цяпер хоспіс абслугоўвае 72 сям'і ў Мінску, акрамя таго, ёсць пілот-праграма па рабоце з жыхарамі вёсак. Распрацавана праграма абязбольвання, а таксама методыкі, па якіх навучаюць гэтаму бацькоў хворых дзяцей. Хаця і тут ёсць праблемы: для таго каб эфектыўна зняць боль пры анкалагічных захворваннях, часам неабходна выкарыстоўваць наркотыкі, а, згодна з існуючымі правіламі, супрацоўнікі хоспіса права на гэта не маюць.

Сёння хоспіс гатовы прапанаваць сваю дапамогу значна большай колькасці маючых патрэбу ў гэтым. Але каб развівацца далей, неабходны будынак, бо да гэтага часу ўсе службы, дакументацыя, медыкаменты незразумелым чынам змяшчаюцца ў двух маленькіх пакоях раённай паліклінікі. Нядаўна хоспіс узяў у арэнду памяшканне дзіцячага сада па вуліцы Ракасоўскага, але, бадай, праблем ад гэтага толькі прыбавілася. Арэндную плату адзін долар за квадратны метр можна з поўным правам назваць сімвалічнай, аднак 150 метраў каштуюць ужо 150 зусім канкрэтных долараў у месяц ды яшчэ 200 долараў за камунальныя паслугі, а такіх грошай у хоспіса, які існуе выключна на ахвяраванні і спонсарскую падтрымку, проста няма.

У поле зроку хоспіса хворыя дзеці трапляюць рознымі шляхамі: праз бальніцы, дзе аб хоспісе ўжо добра ведаюць, па народнаму тэлеграфу — нехта нешта пачуў, перадаў, пазваніў... Работа тут арганізавана па двух асноўных напрамках — дапамога хворым з цяжкімі хранічнымі захворваннямі, такімі, як, напрыклад, міяпатыя і дзіцячы цэрэбральны параліч. Мяркуецца пачаць супрацоўніцтва з 9-й клінічнай бальніцай, дзе многа цяжкіх неўралагічных хворых, якія ў перспектыве стануць пацыентамі хоспіса.

Другі, галоўны напрамак работы, — анкалогія і гематалогія, цяжкія траўмы, а таксама дзіцячы цыроз печані. Крытэрый, па якому гэтыя дзеці трапляюць у хоспіс, адзін: смяртэльная хвароба. Практычна ўсе, каму тут аказваюць дапамогу, паміраюць. Работнікі хоспіса гавораць пра гэта спакойна: у кожнага свая работа. Адны лечаць хворых, іншыя, калі становіцца відавочным, што лякарствы і іншыя віды тэрапіі аказаліся бяссільнымі, дапамагаюць дзецям дастойна і па магчымасці без болю пакінуць гэты свет. І калі дзіця памірае з мінімальнымі пакутамі, значыць, гэтыя людзі добра зрабілі сваю работу.

На службу ў хоспіс бяруць, як правіла, людзей, якія ўжо маюць прафесію педагога ці медыка, а асаблівасцям работы ў сем'ях, дзе ёсць хворыя дзеці, іх вучаць ужо ў хоспісе. На думку Ганны Гарчаковай, адно з галоўных дасягненняў мінскага хоспіса — уменне працаваць у камандзе, калі паспяхова аб'ядноўваюцца намаганні сацыяльных работнікаў, псіхолагаў, медсёстраў і ўрачоў. Дарэчы, медсястра — ледзь ці не цэнтральная фігура хоспіса. Яна валодае гіпнозам, можа зрабіць масаж, зняць істэрыку, аказаць псіхалагічную дапамогу і ў цяжкую хвіліну не кідаецца да тэлефона, каб знайсці ўрача, а самастойна прымае важнае рашэнне. Але, як паказвае вопыт, іншы раз для хворага дзіцяці галоўным аказваецца не медыцынская дапамога, а тое, што нехта проста побач і трымае яго за руку. Рабочы дзень тут не нарміраваны, і калі дзіця памірае, урач ці сястра часам не адыходзяць ад яго столькі, колькі патрэбна.

Досыць цяжкія ўмовы працы і вельмі сціплыя заробкі робяць своеасаблівы натуральны адбор, і ў выніку працаваць застаюцца толькі тыя, для каго дапамога смяротна хворым дзецям стала справай усяго жыцця. Магчыма, некаму здасца дзіўным, што прыходзяць у хоспіс працаваць і тыя людзі, якім сацыяльнае і фінансавае становішча дазваляе не працаваць увогуле. Дарэчы, у маскоўскім хоспісе працуе жонка віцэ-прэм'ера Анатоля Чубайса, а ў мінскім — жонкі вядомых бізнесменаў. Развіваецца тут і такая шырока вядомая на Захадзе і новая для нас форма дапамогі, як валанцёрства. Іншымі словамі, добраахвотныя памочнікі зусім бясплатна аказваюць самую разнастайную дапамогу сем'ям, дзе ёсць хворыя дзеці. Прыкладна палавіна сённяшніх супрацоўнікаў хоспіса прыйшлі туды менавіта ў якасці валанцёраў.

Сама работа ладзіцца наступным чынам: спачатку ў сям'ю прыходзіць медсястра, якая ацэньвае як фізічны, так і псіхалагічны стан хворага. Затым з'яўляецца сацыяльны работнік і піша своеасаблівы партрэт сям'і, дзе ўказваецца, кім працуе маці, бацька, ці ёсць бабулі, дзядулі, сёстры, браты, якія праблемы прысутнічаюць у сям'і і з кім іх вырашаць. У доме, дзе смяротна хворае дзіця, як правіла, дапамога патрэбна не толькі яму. І пра блізкіх у сістэме хоспіса клапоцяцца гэтак жа, як і пра хворае дзіця, таму што члены сям'і перажываюць не меншы стрэс, чым той, хто памірае, і пасля яго смерці праблема не знікае, а іншы раз яшчэ больш абвастраецца. "А ці ўсё я зрабіў? А можа, былі магчымасці дапамагчы, якія я не выкарыстаў?" — вельмі часта пытанні ператвараюцца ў жах і праклён для тых, хто застаўся... Таму дапамога, якую аказвае хоспіс, не спыняецца са смерцю дзіцяці, і яшчэ год пасля яе блізкія могуць разлічваць на псіхалагічную падтрымку. Ды і пасля гэтага ім будуць рэгулярна званіць, каб даведацца, як ідуць справы, пасылаць пісьмы і паштоўкі... Ва ўсім свеце ўжо даўно зразумелі, што хоспіс патрэбен не толькі і не столькі для паміраючых, колькі для тых, хто застаецца ў жывых. Як паказвае вопыт, людзям, якія перанеслі трагедыю, лягчэй знайсці агульную мову з тымі, хто перажыў такое ж гора. Аднак сёння ў хоспіса няма нават памяшкання, дзе можна было б час ад часу збіраць бацькоў памерлых дзяцей. Дарэчы, вельмі часта маці пасля смерці сваіх дзяцей ідуць працаваць у хоспісы. Страціўшы сэнс свайго жыцця і часам само жаданне жыць, жанчына знаходзіць у сабе сілы зразумець, што калі нават ужо ніколі не будзе шчаслівай сама, то зможа дапамагчы прайсці гэты страшны крыжовы шлях тым, каго ён яшчэ чакае.

Гуманітарная дапамога, якая паступае з-за мяжы на адрас хоспіса, дазваляе матэрыяльна падтрымліваць сем'і, дзе ёсць хворае дзіця. Аднак дапамагаюць тут індывідуальна, зыходзячы з таго, што бяда ў гэтых людзей агульная, а матэрыяльнае становішча ў кожнай сям'і сваё.

Сродкі, на якія існуе хоспіс, тэма асаблівая. Упершыню на пытанне: "Ці ёсць у вас спонсары?" — давялося пачуць: "Ёсць, і вельмі многа". Дапамогу рэчамі бедным сем'ям аказваюць замежныя і мясцовыя спонсары, з-за рубяжа прыходзяць грашовыя гранты, якія дазваляюць вырашаць бягучыя фінансавыя праблемы, на рахунак хоспіса паступае мноства ахвяраванняў ад мясцовых фірм і прыватных асоб. Па дзесяць тысяч долараў штогод пералічвае на рахунак хоспіса размешчанае ў Мінску прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Вось ужо два гады рэстаран "Іспанскі куток" штотыднёва дастаўляе ў сем'і, дзе ёсць хворыя дзеці, бясплатныя абеды. Да нядаўняга часу такую ж дапамогу аказваў рэстаран "Вена", не схільныя да сантыментаў начальнікі АТС устанавілі тэлефоны практычна ўсім пацыентам хоспіса, дапамагалі фірмы "Экатэхінвест", "Тэхнасувязь" і многія іншыя, каму бясконца ўдзячныя супрацоўнікі хоспіса і сем'і, дзе ёсць хворыя дзеці. На пытанне, ці дапамагае хоспісу дзяржава, тут адказалі: "Так. Тым, што не перашкаджае". Афіцыйныя структуры дазваляюць хоспісу існаваць, але якой-небудзь зацікаўленасці да яго не праяўляюць. Між тым, калі бацькі забіраюць цяжка хворае дзіця з бальніцы дамоў, пад апеку хоспіса, дзяржава эканоміць вельмі значныя сродкі. Кошт лячэння аднаго дзіцяці ў дзіцячым гематалагічным цэнтры каштуе 56 долараў у дзень. Хоспіс абслугоўвае 72 дзяцей, узяўшы на сябе ўсе расходы, у тым ліку і кошт вельмі дарагіх медыкаментаў. Больш таго, ужо два гады хоспіс аказвае дапамогу смяротна хворым дзецям, не маючы на гэта ліцэнзіі. Так, за мяжой падобныя ўстановы кожныя паўгода прадастаўляюць дзяржаве падрабязную справаздачу аб сваёй дзейнасці і аб тым, як расходуюцца грошы, ахвяраваныя спонсарамі. Але са свайго боку дзяржава без затрымкі выдае ліцэнзію на стварэнне хоспіса і прадастаўляе каралеўскія падатковыя льготы ўсім, хто аказвае яму матэрыяльную падтрымку. У нас жа спонсарам, якія дапамагаюць хоспісу, не прадастаўляецца нават тая пяціпрацэнтная льгота, якую маюць фірмы, што адлічваюць грошы на рахунак дзяржаўных медыцынскіх устаноў.

Узнікаюць праблемы і іншага роду. Бываюць выпадкі, калі немагчыма правесці эфектыўнае абязбольванне дома, спыніць крывацёк ці проста трэба даць хаця б некалькі дзён адпачыць сваякам, якія выматаны бясконцым чаканнем горшага. Для гэтага неабходна свая маленькая бальніца або некалькі ложкаў, замацаваных за хоспісам у дзяржаўнай медыцынскай установе. На жаль, аб гэтым даводзіцца толькі марыць.

Аднак у даным выпадку размова ідзе аб экстрэмальных сітуацыях ці кароткачасовай шпіталізацыі, таму што не павінны дзеці, у якіх ёсць шанс выжыць, быць разам з тымі, хто хутка пакіне гэты свет, таму што адразу з'яўляецца страх і няўпэўненасць, а супраць іх лекаў не існуе. І абавязак хоспіса дапамагчы ім пераадолець не толькі фізічны боль, але і натуральны страх перад непазбежным канцом. Для гэтага трэба пачаць гаварыць з дзіцем аб тым, што яго чакае, чаго бацькі па зразумелых прычынах баяцца, не дазваляючы закранаць балючую тэму і работнікам хоспіса. А загнаны ўнутр страх ад гэтага толькі разрастаецца, раз'ядаючы душу хутчэй, чым рак — цела. Па словах Ганны Гарчаковай, перад тварам смерці дзеці значна больш мужныя за сваіх бацькоў. У жаху ад таго, што адбываецца, маці і бацькі мітусяцца ў пошуках дэфіцытных лекаў, замест таго каб можа ў апошні раз проста пагаварыць са сваім дзіцем, і страчваюць яго раней, чым яно памірае.

Сёння ва ўзаемаадносінах хоспіса і дзяржавы надышоў момант, калі без афіцыйнай падтрымкі далейшае развіццё гэтага руху становіцца немагчымым. Тут не просяць грошай на сваё існаванне. Ад дзяржавы трэба зусім нямнога: каб знялі арэндную плату за памяшканне былога дзіцячага сада ды па аплаце камунальных паслуг хоспіс прыраўнялі да бюджэтных арганізацый. Хочацца верыць, што дзяржава, якая не змагла забяспечыць сваім маленькім грамадзянам дастойнае жыццё, паклапоціцца хаця б аб тым, каб аблягчыць іх смерць.

. У верасні з Мінска паехала дэлегацыя дырэктараў амерыканскіх хоспісаў з розных штатаў краіны. Азнаёміўшыся з усімі аспектамі работы тутэйшага хоспіса, яны былі ўражаны ўбачаным і сказалі, што ён арганізаваны на ўзроўні лепшых амерыканскіх устаноў такога тыпу. Аб'ехаўшы ўсе хоспісы на тэрыторыі СНД, яны прызналі, што ні адзін з іх не можа параўнацца з мінскім.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# КАНСТАНЦІН КАЛІНОЎСКІ І ЯГО НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

А мы пачытаем яшчэ: "...Ронд Польскі пытае вас, якім вы правам смелі памагаці маскалю ў нячыстаму дзелі?! (...) А хто з вас хоча няволі маскоўскай — таму мы дамо шыбеніцу на галіне!" "А хто гэтаму прыказу спрэчан будзе (...), усякага данасіць да Ронду Польскага, каб можна было пазней павесіць..." ("Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім..."). "...Былі прывілеі каралёў польскіх, а цяпер гдзе яны?" "...Мы, што жывема на зямлі Польскай, што ямо хлеб Польскі, мы, Палякі з вякоў вечных". ("Пісьмо ...Да мужыкоў зямлі Польскай"). "І гэтак было доўга: адне баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. З гэтуль то і ўзялася гэта паньшчына. Судзеце ж цяпер самі, чы можна было зрабіці справядлівей, як зрабіў калісьці наш Кароль Польскі да і Літоўскі?" ("Мужыцкая праўда", № 2).

Калі я ў сваім артыкуле "Маякі і міражы" пакарыстаўся гэтай цытатай, то М. Біч мне запярэчыў: "К. Каліноўскі (...) знайшоў адпаведны падыход да сялянскага розуму і душы ў форме незвычайна жывой, канкрэтна-вобразнай, нярэдка па-сялянску грубаватай гутаркі (...). Вельмі складаныя грамадска-палітычныя пытанні "Мужыцкая праўда" асвятляла гранічна сцісла, лагічна, паслядоўна і даступна для масы сялян". А ў канцы разважанняў М. Біч падагульняе: "Так што тлумачэнне паходжання паншчыны ў "Мужыцкай праўдзе" адпавядае гістарычным рэаліям". ("Настаўніцкая газета", 1991, 24 і 27 ліпеня). Можна сабе ўявіць, як паразумнелі чытачы другога нумара "Мужыцкай праўды", даведаўшыся, што прыгон з'яўляўся праявай найвышэйшай гістарычнай справядлівасці. А ці варта забываць, як тая ваяўнічая шляхта прабалявала і праліла сваю дзяржаву? І ці адмовілася яна пасля гэтага ад паншчыны?

"Пісьмо ... да мужыкоў зямлі Польскай" парадзіла цэлы шэраг пытанняў, сваім незвычайным зместам дало падставу для разнастайных дыскусій і дачакалася ў друку ажыўленых разважанняў, хоць некаторыя аўтары і да гэтага часу знарок абмінаюць яго, асабліва ў падручніках, у даведачнай і навукова-папулярнай літаратуры — каб не кінуць цень на таго, чый подпіс пад ім стаіць.

Падзеі таго часу пакінулі яшчэ адзін цікавы і значны беларускамоўны дакумент, які, аднак, пакуль што не прыцягнуў да сябе належнай увагі. Гэта "Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да Народу зямлі Літоўскай і Беларускай". Г. Кісялёў, адзін з найбольш уважлівых даследчыкаў эпохі паўстання, у артыкуле "Каліноўскі — знаёмы і незнаёмы" ("Полымя", 1993, № 6, с. 224) абмежаваўся толькі заўвагай: "Мала таго, што перад намі дакумент на добрай беларускай мове, якая ўзнята тут паўстанцамі на своеасаблівы дзяржаўны ўзровень. Тут у самой назве зноў жа цэлая канцэпцыя — "ронд" няхай сабе польскі, але край Літоўскі і Беларускі, зямля Літоўская і Беларуская і народ адпаведны".

Камусьці імпануе, што ў "Прыказе..." згадваецца зямля Літоўская і Беларуская. І ўжо не мае ніякага значэння акалічнасць, што небывала жорсткі "прыказ" для гэтай зямлі дыктуе "ронд польскі". Пра яго сутнасць і дух нашы аўтары ці маўчаць, ці пішуць абы-што. У гэтай сувязі давядзецца нагадаць некаторыя факты, нейкім чынам звязаныя з паходжаннем і зместам дакумента.

Мы памятаем, што 10 мая 1863 года Цэнтральны камітэт быў рэарганізаваны ў Нацыянальны ўрад. А 24 мая адбыўся, паводле сведчання Ю. Пілсудскага, чарговы дзяржаўны пераварот, у выніку якога і дзяржаўная пячатка, і ўлада апынуліся ў руках рашучых, радыкальна настроеных дзеячаў. 2 чэрвеня новы "ронд" прымае вельмі цікавы дэкрэт:

"Нацыянальны ўрад,

Прызнаючы неадкладную патрэбу забеспячэння належнага ходу палітычна-рэвалюцыйнай судовай справе,

Пастанаўляе наступнае:

Арт. 1. У кожным павеце і асобна ў горадзе Варшаве ўводзяцца Рэвалюцыйныя трыбуналы.

Арт. 4. Кожны з Рэвалюцыйных трыбуналаў складацца будзе са старшыні і двух членаў. Прысуды будуць прымацца большасцю галасоў.

Арт. 6. (...) Рэвалюцыйныя трыбуналы будуць прымаць рашэнні на аснове кодэксу пакаранняў і кодэксу паводзін, якія зацвярджаюцца ўрадам адначасова."

За супрацьдзеянне паўстанню перш за ўсё прадугледжвалася пакаранне смерцю. Вельмі арыгінальным з'яўляецца трэці параграф таго кодэкса:

"Узаконьваецца прынцып, што кожны грамадзянін краіны мае права абвінаваціць другога шляхам даносу".

Як бачым, Фелікс Дзяржынскі меў добрых настаўнікаў.

Можа дзеля кур'ёзу варта нагадаць, што да тэорыі і практыкі даносаў аказаўся ў свой час неабыякавым "Літоўскі Статут" 1588 года. Артыкул 2 раздзела першага ("О персоне нашой господарской") сфармуляваў справу вельмі выразна: "Мы, господар, шлюбуем никого не карати на заочное поведанье, хотя бы дотыкалося маестату нашого господарского ображенья (знявагі. — **У. К.**) або здрады речы посполитое. А хто бы теж на кого што несправедливе в тых речах вел около ображенья маестату нашого господарского або здрады речы посполитое, а не довел, тым сам каран быти маеть". Гэта — у падзагалоўку. А ў заключэнні самога "Артыкула 2" мы чытаем: "А хто бы теж колвек кого абмовляючы в тых речах около ображенья маестату нашого або здрады речы посполитое винил ку соромоте а зельживости, а шло бы таковому обвиненому о честь або о горло (пакаранне смерцю. — **У. К.**), або которое колвек каранье, тогды тот, хто на кого мовить и ведет, а не доведеть, тым караньем сам каран быти маеть" (Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. — Мн., 1989, с. 80).

Той дэкрэт Нацыянальнага ўрада, пра які ў нас ішла гаворка, нарадзіўся, паўтараю, 2 чэрвеня. А ўжо 11 чэрвеня з'явіўся на свет "Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да Народу зямлі Літоўскай і Беларускай". Даследчыкі (А. Смірноў, М. Біч, Г. Кісялёў і іншыя) лічаць, што той "Прыказ..." быў напісаны самім Каліноўскім. Меркаванні аб яго аўтарстве ніхто, як быццам, не аспрэчваў.

У "Прыказе..." асноўным аргументам і амаль адзіным сродкам ідэйна-палітычнага выхавання жыхароў зямлі Літоўскай і Беларускай называецца шыбеніца. Прытым у аднолькавай ступені яе абяцаюць і панам, і мужыкам: "Пан будзе ліхі — пана павесім, як сабаку! Мужык будзе кепскі — то і мужыка павесім, а дворы іх і сёла з дымам пойдуць..." "А хто з вас хоча няволі маскоўскай — таму мы дамо шыбеніцу на галіне!" "А хто гэтаму прыказу спрэчан будзе, таго — ці ён поп ці ксёндз, мужык ці пан, усякага даносіць да Ронду Польскага, каб можна было пазней павесіць або, зазваўшы Грамаду і зрабіўшы справядлівы суд, без адгаворкі весці на шыбеніцу!" Само па сабе слова "даносіць" і такія шчодрыя абяцанні шыбеніцы ўсім — і мужыкам, і панам, і папам, і нават ксяндзам — выразна засведчылі духоўную сувязь "Прыказа..." з дэкрэтам ад 2 чэрвеня.

Пасля гэтых дакументаў можна яшчэ раз звярнуцца да Ратча. Царскі генерал, хоць на "Прыказ..." і не спасылаецца (можа нават і не чытаў яго), але прыводзіць звесткі пра канкрэтныя дзеянні: "Сілай мяцежнай арганізацыі *чырвоныя* хацелі павесці справу з надзейным умацаваннем сваёй улады, для таго стварылі крымінальны суд (трыбунал) з неадкладнай карай за непадпарадкаванне (жандарамі-кінжальшчыкамі і вешальнікамі)". "Сапраўдным распарадзіцелем мяцяжа быў гурток, які складалі ярыя чырвоныя; у ім вырашаліся ўсе меры, пераважна прапанаваныя Дзюлёранам, Каліноўскім і Малахоўскім. Пераўтвараючы баявыя шайкі ў шайкі жандараў-вешальнікаў, гэты новы, дамашні камітэт хацеў створаную па гарадах тайную паліцыю мяцежнікаў ператварыць у жандараў-кінжальшчыкаў, і Малахоўскі напісаў такую для іх інструкцыю, якая выклікала жах у членаў Аддзела, нядаўна перайменаванага ў *выканаўчы*. Начальніку давалася права, нават без суда, падпісваць дэкрэт аб пакаранні смерцю кожнага туземца, які, на яго погляд, супрацьдзейнічае польскай справе.

Каліноўскі і Малахоўскі патрабавалі ўсюды самага ярага і крывавага тэрору, каб прымусіць усіх жыхароў прымаць гарачы ўдзел" (Сведения о польском мятеже.., с. 182).

Гэтая інфармацыя Ратча не пярэчыць ні зместу, ні духу афіцыйных дакументаў — і дэкрэта ад 2 чэрвеня, і "Прыказа..." ад 11 чэрвеня, і "Прыказа" К. Каліноўскага, апублікаванага ў артыкуле Г. Кісялёва "Каліноўскі — знаёмы і незнаёмы" ("Полымя", 1993, № 6). Там таксама сустракаюцца не надта далікатныя фармуліроўкі і абяцанні: "Ронд Польскі, паставіўшы мяне над вамі, вымагае, каб я глядзеў справядлівай вольнасці і праўды і каб вы адно рабілі так, як вам ад Ронду Польскага будуць прыказываць". "...Хто проціў Ронду Польскага, таму агонь і шыбеніца".

А можа гэта было толькі жаданне папалохаць на ўсякі выпадак? Дакументы сведчаць, што не. Прачытаем данясенне гродзенскага губернатара генерал-губернатару ад 30 красавіка 1863 года пра павешаных паўстанцамі людзей:

"На основании полученных мною официальных донесений имею честь довести до сведения вашего высокопревосходительства следующее:

В Бельском уезде 13 апреля мятежники, до 200 человек, прибыли в местечко Боцьки, повесили на столбе отставного рядового Великолуцкого пехотного полка Михаила Дмитриева.

В Сокольском уезде, в ночь с 11 на 12 апреля, шайка вооруженных мятежников в урочище Лебедзине забрала сына жительствующего там дворянина Яновского — Фому, 16 лет, и ученика Гродненской гимназии, по фамилии неизвестного, и увела с собою в лес. 15 апреля, после выступления шайки мятежников из деревни Соколды, где находились на привале в лесу при самой дороге, были найдены трое повешенных, из коих один бессрочно-отпускной солдат Николай Потончик, а остальные двое — крестьяне.

В Белостокском уезде 16 апреля шайка мятежников, прибыв из Царства Польского в деревню Байки, взяла отставного рядового Олеопольского уланского полка Франца Кужеля, увезла его в лес и там повесила, затем, следуя в деревню Мрочки, захватила на пашне крестьянина Якова Вишкевича и также повесила, потом отправилась обратно в Тыкоцин.

Генерал-майор Галлер"

(Виленский временник. Издается при Муравьевском музее в гор. Вильне. Книга VI. Архивные материалы Муравьевского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863—1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Часть первая. — Вильна, 1913, с. 427).

Як бачым, гэтыя звесткі ахопліваюць усяго толькі перыяд з 11 па 16 красавіка. Варта нагадаць, што на той тэрыторыі ў гэты час паўстаннем кіраваў не хто іншы, як К. Каліноўскі. Апісаныя ў данясенні падзеі адбываліся яшчэ перад нараджэннем "Прыказаў", пра якія раней ішла гаворка, і перад прыездам Мураўёва-вешальніка ў Вільню.

Чаму паўстанцы вешалі адстаўных салдат і мужыкоў? Адказ на гэтае пытанне памог знайсці Ю. Пілсудскі. Ён пісаў, што ў паўстанні ўдзельнічалі не толькі добраахвотнікі, але і тыя, каго мабілізавалі. Логіка тут небывала выразная, можна сказаць, жалезная. Звяртаючыся да "дзецюкоў", К. Каліноўскі аўтарытэтна ім паведамляў: "Вы да Ронду Польскага належыце". А ў адным з "Прыказаў" з усёй катэгарычнасцю папярэджваў: "Хто проціў Ронду Польскага, таму агонь і шыбеніца". Дык што ж заставалася рабіць з адстаўнымі салдатамі, якія не хацелі ісці ваяваць за "ронд польскі"? Толькі адно — весці на шыбеніцу.

Не абмінуў гэтай праблемы і сам Каліноўскі ў апошнім, сёмым нумары "Мужыцкай праўды": "А такіх, што за грошы не пабаялісь служыць ворагам нашым, што не хацелі мужыкам зямлі да праўды на свеце, да спрэчны былі новай вольнасці да новаму польскаму маніхвэсту, гэтакіх вешаюць, як подлых сабак, селішча іх апусцелі, пайшлі з дымам іх хаты, прапала марна худоба".

Адна гэтая фраза дае выключна багаты матэрыял для роздуму. Каго і за што К. Каліноўскі і яго паўстанцы вешалі, "як подлых сабак", і з дымам пускалі іх хаты? На першым месцы апынуліся тыя, што "за грошы не пабаялісь служыць ворагам нашым". Хто ж гэта мог быць, апрача работнікаў адміністрацыі, розных дзяржаўных ведамстваў ці нейкіх там настаўнікаў? А пра каго можна было сказаць, што "не хацелі мужыкам зямлі"? Можа пра памешчыкаў або ксяндзоў? Паўстанцы нікога з іх не чапалі — такіх звестак я не сустракаў. Дзе, у якім маніфесце ці "прыказе" было сказана, што мужыкам перадаюцца памешчыцкія, касцельныя або манастырскія землі? Пра такое не было чуваць. Таксама, як і пра тое, што паўстанцы дзе-небудзь павесілі памешчыка, які не захацеў падзяліцца зямлёю з сялянамі.

А можа знайшліся такія мужыкі, якія бараніліся, калі ім сілком давалі зямлю? Вось за такое і трэба было б і вешаць, і паліць, і "худобу" пераводзіць.

Падобная аргументацыя сур'ёзна не можа ўспрымацца. Такім вось чынам застаецца адна рэальная віна тых, каго вешалі: яны "спрэчны былі новай вольнасці да новаму польскаму маніхвэсту". А раз былі "спрэчны" і не хацелі ісці ваяваць за "ронд", да якога "належалі", то што з імі заставалася рабіць?

І цяпер яшчэ раз паспрабуем задаць пытанне: дзе ў тых "Прыказах...", зваротах і рэальных паводзінах паўстанцаў беларускі дух і думы беларускія?

Ніхто не паспрабаваў задумацца, чаму публіцыстыка К. Каліноўскага ў XIX і ў самым пачатку XX стагоддзяў (у нашаніўскі перыяд) зусім не ўплывала на свядомасць нашай інтэлігенцыі, не згадвалася не толькі ў нейкіх там ананімных творах, але нават і ў палымяных публіцыстычных прадмовах да паэтычных зборнікаў Ф. Багушэвіча, "бацькі беларускага адраджэння", непасрэднага ўдзельніка студзеньскага паўстання? Магло б здавацца, што хто-хто, а ўжо ён то павінен быў бы мець аказію ведаць пра ідэйную накіраванасць і сутнасць палемічных баталій эпохі паўстання. Ці не таму, што рэальны змест той публіцыстыкі не адпавядаў поглядам нашых першапраходцаў, ініцыятараў і найбольш бескарыслівых дзеячаў нацыянальнага адраджэння?

Нацыянальныя праблемы цесна перапляталіся з **сацыяльнымі.** Разглядаючы тагачасны гістарычны працэс, мы не маем права не бачыць іх небывалую вастрыню, якой ніяк не маглі не ўлічваць кіраўнікі і ўдзельнікі паўстання. Выкарыстоўваючы іх, найбольш радыкальна настроеныя дзеячы рабілі спробу ўзняць на вайну беларускае працоўнае сялянства, ад паводзін якога ў канчатковым выніку і залежаў лёс нашае зямлі. Але яны ставілі пытанне так, што толькі перамога паўстання, толькі адроджаная Польшча вызваліць селяніна ад прыгону, дасць яму і зямлю, і сапраўдную волю.

У той жа час селянін мог пачуць і нешта зусім іншае: цар дае народу свабоду, а польскія паны не жадаюць мірыцца з гэтым, не хочуць выпусціць мужыка з ярма. Таму яны пайшлі супраць цара і народа:

**Бацька цар волю даў**
**І некрута дараваў,**
**Затым цяпер панам**
**Не так стала па зубам.**
**Трэба панства пакідаці**
**Дай соху у рукі браці.**
**Праз тое і бунты сталі,**
**Што рабіць ім перасталі.**
**Хочуць Польшчу абнавіць**
**І зноў мужыка давіць.**

Так сказана ў ананімным вершы "Дзякуй Боку і гасудару..."

Нешта блізкае паведамляў следчым органам і сам К. Каліноўскі: "Селянін, бачачы не абрэзаныя яшчэ кіпцюры сваіх паноў, не мог ім даверыцца і стаў глядзець на справу польскую як на зацею памешчыцкую, а органы ўрада такое разуменне селяніна стараліся падтрымліваць (К. Калиновский. Из печатного и рукописного наследия. — Минск, 1988, с. 87).

Наогул гэта быў унікальны гістарычны перыяд. Да таго часу яшчэ ніколі да беларускага селяніна не звярталіся з мастацкім або публіцыстычным словам як да сілы, якая можа адыграць важную ці нават рашаючую ролю ў грамадскім развіцці. А ў пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя разгарнулася змаганне за яго душу і свядомасць. Іменна яму адрасаваў свае пасланні Яська-гаспадар з-пад Вільні, аўтары "Гутаркі двух суседаў", "Гутаркі старога дзеда". З другога боку, да яго звярталіся аўтары такіх помнікаў, як "Рассказы на белорусском наречии", "Речь старовойта к крестьянам о свободе". Беларускі мужык, хоць як быццам пасіўны, прымусіў усіх лічыцца з ім. Само па сабе гэта ўжо сведчыла аб тым, што ён пачаў адыгрываць усё больш значную ролю ў грамадскім развіцці.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 40, 41.**

З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# СПЯВАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

У Літве, у асноўным на Віленшчыне, устанавілася традыцыя святкавання фестываляў беларускай песні. Падобныя святы праводзіліся ў мінулыя гады ў Друскеніках, Салечніках і іншых мясцінах пры актыўным удзеле дзесяткаў мастацкіх калектываў і мясцовага насельніцтва.

Згодна з гэтай традыцыяй, і ў бягучым годзе з'ехаліся ў Вісагінас (былы Снечкус) дзесяткі мастацкіх ансамбляў, салістаў і гасцей на чарговы фестываль народнай песні і танца. На гэты раз, акрамя рэгіёнаў Літоўскай Рэспублікі, прыбылі калектывы з беларускіх гарадоў і Эстоніі.

Нягледзячы на пераменнае надвор'е, народу сабралася нямала. Прасторная зала клуба "Банга" была перапоўнена. Выдатная акустыка і прыгожае афармленне спрыялі сапраўднаму святу песні. У дакладна вызначаны час распачаўся канцэрт. Пасля кароткай прывітальнай прамовы прадстаўніка Беларускага згуртавання Алега Давідзюка канцэртную частку фестывалю адкрыў мастацкі кіраўнік гэтага мерапрыемства, папулярны саліст нацыянальнай оперы Леанід Мурашка. Выкананая ім кампазіцыя Ю. Семянякі (словы А. Бачылы) "Радзіма" літаральна захапіла шчыльна запоўненую залу. Цудоўная мелодыя, выкананая свежым, сакавітым і магутным голасам выдатнага артыста, пры акампанеменце таленавітай піяністкі Галіны Знайдзілоўскай зачаравала публіку і стварыла ўзнёслы настрой у прысутных. А калектываў вакальнага мастацтва і салістаў было нямала. Не ўсе жадаючыя змаглі ўдзельнічаць у фестывалі — прыйшлося ўключыць толькі самых лепшых, найбольш падрыхтаваных.

Выйшлі на сцэну харысты "Шчары" Вісагінскай беларускай суполкі. Паколькі яны нядаўна арганізавалі свой мастацкі ансамбль, гледачы на многае не спадзяваліся. І... памыліліся! Хор з добрым музычным акампанементам выканаў на высокім узроўні народныя песні "Сонца ў азярцы", "Звіняць званочкі", "Каваль-каваль", польку "Трасуху" і інш. Дружныя апладысменты заслужана ўзнагародзілі мясцовых энтузіястаў роднай песні.

Нечакана пацешылі публіку студэнты ансамбля Беларускага універсітэта культуры. Цікавыя, арыгінальныя кампазіцыі вызначаліся даволі смелай (і спелай) харэаграфіяй і юначай дынамікай. Іх выступленне вельмі цёпла ўспрымалася гледачамі.

Чарговым нумарам было выступленне харавога ансамбля віленскай "Сябрыны", якая ўжо здабыла немалую папулярнасць. Мілагучныя і экспрэсіўныя беларускія народныя песні ў выкананні пераважна пажылых жанчын у прыгожых нацыянальных касцюмах адразу заваявалі сімпатыі ўсхваляванай залы. Паплылі сумныя і вясёлыя, жартоўныя песні: "Добры вечар, госці!", "У саду гуляла", "Дзесяць жаніхоў", "Баба Еўка, дзед Тамаш" і іншыя. Поспех — стопрацэнтны! У значнай меры заслуга належыць адоранай талентам дырыжорцы (кіраўнічцы) В. Кавальчук. Аўтар без вялікай рызыкі спадзяецца, што з гэтай таленавітай дзяўчыны можа атрымацца беларуская Русланава. Толькі трэба ёй над сабой папрацаваць.

Неспадзявана добры ўзровень паказаў музычна-харавы ансамбль пагранічнага (на Беларусі) літоўскага паселішча Гярвечай. Іхняя праграма ў харавым выкананні (у прыгожых нацыянальных касцюмах) і на цымбалах — "Ці ўсе лугі пакошаны", "Крыжачок" і інш. — захапіла слухачоў, якія доўга не адпускалі са сцэны сімпатычны і таленавіты калектыў.

Нечаканым было выступленне віленчука Андрэя Старавойтава, які заваяваў прыхільнасць залы песнямі: "Я люблю бярозку" (Ю. Семяняка, словы А. Русака), "Я ад вас далёка" — у сольным выкананні, а таксама ў дуэце з праслаўленым Л. Мурашкам.

Шчырую радасць прынясло выступленне школьнага ансамбля з Друскенік "Спадчына", высока ацэненае мастацкім кіраўніком фестывалю Галінай Знайдзілоўскай. Сапраўды, падрыхтаваны Маргарытай Пузыновіч школьны калектыў цудоўна выканаў песні "Спадчына" (словы Купалы, музыка Ю. Лучанка), народную песню "Чырвоная рабіначка", "Ой у полі крыніца", "Купалінка", "Цячэ вада ў ярок" і інш.

Паспяхова выступіў таксама фальклорны калектыў з Эстоніі "БЭЗ" пад мастацкім кіраўніцтвам З. Клыгі. Выкананыя ім песні з эстонскага рэгіёна пакінулі глыбокае ўражанне.

Аднак бясспрэчна па-за канкурэнцыяй было выступленне калектыва "Паазер'е". Выкананыя імі "Ручнікі", "Беларус" ды іншыя мелодыі падхоплівалі ўсе прысутныя і супольна з аркестрам стваралі сапраўдную гармонію. Усе спецыялісты-музыказнаўцы пагадзіліся, што мастацкім кіраўніком ансамбля А. Собаль дасягнуты выдатныя вынікі! Згарманізавана і эмацыянальна гучалі іх цымбалы, гармонікі і скрыпкі. Асабліва тады, калі пасля канцэрта і вячэры распачаліся агульныя танцы.

Трэба адзначыць, што канцэрты працягваліся два дні. Першы — у памяшканні мясцовай школы "Атэйціс" ("Будучыня"), дзе з майстэрствам шматлікіх калектываў пазнаёмілася школьная моладзь. І не трэба сумнявацца, што адораныя музыкальным слыхам дзеці захочуць далучыцца да свету музыкі. Магчыма тут будзе пачатак кар'еры нашых будучых Шырмаў, Забэйдаў і Семянякаў?..

Спецыялісты народнай песні і музычнай творчасці — Леанід Мурашка і піяністка Галіна Знайдзілоўская высока ацанілі вынікі Другога фестывалю Вісагінаса.

Мастацкі кіраўнік мерапрыемства выказаў шчырую падзяку за ўкладзеную працу кіраўніцтву мясцовай беларускай суполкі Віктару Марчуку і Алегу Давідзюку, а таксама кіраўніцтву ўсіх іншых арганізацый, якія прыбылі на фестываль, падкрэсліўшы значную дапамогу з боку Пасольства Рэспублікі Беларусь — пасла Я. Вайтовіча, В. Жлутко ды іншых апекуноў беларускай дыяспары ў Літве. Згодна з іх ініцыятываю і дапамогай быў наладжаны продаж беларускай літаратуры.

На трэці дзень сустрэчы адбылася гутарка мінскай урадавай дэлегацыі з кіраўніцтвам беларускіх суполак Літвы і былі перададзены падарункі метраполіі мясцовым суполкам. Найбольш усцешыліся гаспадары прыгожым новенькім акардэонам, які быў уручаны Леанідам Мурашкам вісагінскай арганізацыі.

Зразумела, што ўсе прысутныя былі шчыра ўдзячныя галоўнаму спонсару імпрэзы — дырэкцыі банка "Снорас" (Вільнюс). Дзякуючы гэтай дапамозе, гасцям былі забяспечаны неабходнае харчаванне і начлег.

Прысутнічалі на фестывалі дыпламаты Украіны, Літвы, некаторых іншых краін. Прысутнасць беларускага мастацкага актыву ў Вісагінасе была для некаторых прыемнай неспадзеўкай. Свята песні ў горадзе на ўскраіне Літоўскай Рэспублікі паказала, што, нягледзячы на палітычныя і грамадскія цяжкасці, беларусы жывуць і працуюць актыўна, з цвёрдай надзеяй на лепшае заўтра. Наша праца, цярплівасць і адзінства нацыі з'яўляюцца залогам перамогі ў барацьбе за незалежнасць і дэмакратыю Беларусі.

**А. ЗІНКЕВІЧ.**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 7—8

Згаданы вышэй нумар часопіса адкрываецца матэрыяламі, прысвечанымі 480-годдзю беларускага кнігадрукавання. Надзвычай цікавы артыкул доктара філалогіі, супрацоўніка Славянскай бібліятэкі ў Празе Францішкі Сокалавай "Скарына і Прага". Паводле вядомых звестак, Скарына быў у гэтым горадзе двойчы, правёўшы там прыкладна восем гадоў жыцця. Першы яго побыт у Празе быў звязаны з друкаваннем там Бібліі. На думку чэшскага вучонага-славіста XVIII стагоддзя Я. Добраўскага, "перакладу Бібліі менавіта ў Празе спрыяла тое, што тут можна было лягчэй знайсці неабходную дапамогу ў выдавецкай справе. У час свайго другога побыту ў Празе Ф. Скарына быў садоўнікам у Фердынанда I, а яго сын Сымон працаваў пазней у паўднёвай Чэхіі лекарам, а ў старасці быў садоўнікам.

Францішка Сокалава зазначае: "Абодва візіты Скарыны ў Прагу мелі і адну супольную рысу. Выдатная асоба, якая рабіла ўражанне сваёй адукацыяй, акрамя надзвычайных здольнасцей, мела яшчэ і незвычайную адвагу рабіць нешта зусім новае. І пераклад Бібліі, і батанічны сад у тагачасны перыяд з'яўляліся нечым новым, незвычайным, што рабілася для іншых людзей, на перспектыву, на будучыню". Імкненне даць свайму народу надрукаваную на яго мове Біблію — гэта быў у скарынаўскія часы сапраўды еўрапейскі накірунак думкі. Для ўсходніх славян скарынаўскае выданне Бібліі было унікальнай з'явай, бо да таго часу друкавання на іх землях не было. У пазнейшыя часы выданні нашага паршадрукара пашыраліся на землях Вялікай Літвы, Украіны, Масковіі.

Доктар гістарычных навук, прафесар Яўген Неміроўскі расказвае аб перавагах складзенага ім Зводнага каталога выданняў Францішка Скарыны. Вучоны сцвярджае, што менавіта згаданы каталог з'яўляецца вычарпальным даведачным дапаможнікам для даследчыкаў, якія вывучаюць жыццё і дзейнасць Скарыны і яго выданні.

Багаты на выдатныя постаці раздзел "Беларусы ў свеце". Пра Міхася Міцкевіча, роднага брата паэта Якуба Коласа, распавядае Марыя Міцкевіч. "Голас Радзімы" згадваў ужо на сваіх старонках аб жыцці і творчасці гэтага таленавітага чалавека, які палову свайго жыцця пражыў на чужыне, памёр і пахаваны ў Злучаных Штатах Амерыкі.

У Магілёве нарадзіўся славуты вучоны Ота Шміт. Ён быў матэматыкам, астраномам, геафізікам, вядомы як даследчык Арктыкі. Яго імем названы востраў у Карскім моры, пасёлак і раён на Чукотцы. Памяць пра вучонага зберагаецца і ў Беларусі. Яго імем названы праспект у Магілёве, вуліцы ў многіх іншых беларускіх гарадах.

У часопісе згадваюцца імёны слынных беларусаў, якія адышлі ў нябыт за гэты час — Наталля Арсеннева, Лявон Луцкевіч, Уладзімір Сянько...

# ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



А вечарам у памяшканні Даўгаўпілскага драматычнага тэатра адбыўся грандыёзны канцэрт у перапоўненай зале, на пачатку якога вельмі хораша спявалі даўгаўпілская "Купалінка" (мастацкі кіраўнік Я. Шчамялёва), рыжская "Надзея" (мастацкі кіраўнік З. Кальвіш), а затым з вялікай праграмай цудоўна выступіла віцебская "Талака" (мастацкі кіраўнік М. Падаляк).

І назаўтра, 14 верасня, у нядзелю, на цэнтральнай плошчы Віенібас паказвалі свае таленты вышэйзгаданыя ансамблі і беларускі фальклорны ансамбль з Браслава "На панадворку". Мастацкі кіраўнік гэтага ансамбля Марына Тамашэвіч у час канцэрта падаравала саламяныя капелюшы мэру Даўгаўпілса спадару Аляксею Відаўскаму і генеральнаму консулу Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе спадару Анатолю Жалтоўскаму, каб развяселенае сонца не так прыпякала ім галовы.

Трохі спазніліся ў гэты дзень прыехаць беларускі фальклорны ансамбль з Вісагінаса з Літвы разам са старшынёй тамтэйшай беларускай суполкі спадаром Марчуком. Таму яны паказвалі, на што здольныя, у беларускай хаце — памяшканні "Уздыму", дзе толькі што прайшло адкрыццё новага навучальнага года ў беларускай нядзельнай школе. Жаданымі гасцямі тут былі ўдзельнікі Дзён беларускай культуры супрацоўнік Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь спадар Генадзь Пяцігор, намеснік дырэктара Цэнтра нацыянальных культур у Беларусі спадарыня Любоў Балаўнёва, спадарыня Ганна Сурмач, старшыня беларускай суполкі "Прамень" у Рызе спадар Мікола Буры, старшыня Фонду беларускай культуры ў Латвіі спадар Алесь Карповіч, рэдактар газеты беларусаў Латвіі "Прамень" спадар Лявон Шакавец, беларуская народная лекарка Любоў Міронава.

Падчас Дзён беларускай культуры кіраўніцтва гарадоў Віцебска і Даўгаўпілса мела магчымасць пагутарыць аб перспектывах эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва. Віцебскую дэлегацыю ўзначальваў старшыня Віцебскага гарвыканкома спадар Пелагейка.

Дні беларускай культуры ў Даўгаўпілсе завяршыліся, але ёсць спадзяванне на іх добры працяг у будучыні, як і гэтыя дні праз шмат гадоў з'явіліся працягам тых Дзён, што ладкавалі тут нашы слаўныя папярэднікі ў 20-я гады — сябры беларускай культурна-асветніцкай суполкі "Бацькаўшчына", настаўнікі і вучні Дзяржаўнай беларускай гімназіі ў Даўгаўпілсе.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,**
**старшыня культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" у горадзе Даўгаўпілсе.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час богаслужэння ў Барыса-Глебскім саборы; выступае віцебскі ансамбль "Талака"; мэр Даўгаўпілса Аляксей ВІДАЎСКІ атрымаў у падарунак капялюш.**





ДА 105-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗОСЬКІ ВЕРАС

# «...І З ПАШАНАЙ І ЛЮБОЎЮ АБ НАС УСПАМІНАЦЬ»



"Так, я сваімі юбілеямі ўжо надакучыла,.." — пісала аднаго разу мне Зоська Верас. А па праўдзе была ўсцешана нашай увагай і цікаўнасцю, частымі наездамі ў яе лясную хатку пад Вільняю. На ўзгорыстыя тыя Панары прабіраліся госці амаль з усіх куткоў Беларусі. І кожнаму, хто звяртаўся да яе на вочы ці лістоўна, хапала змогі дапамагчы. Тысячы пісьмаў прыходзіла штогод да Людвікі Сівіцкай, па мужу Войцік, да легендарнай Зоські Верас. Ад даўніх і новых знаёмых, ад энцыклапедыстаў і пачынаючых літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў і школьнікаў — усіх, хто хацеў узбагаціцца захаванымі ў яе памяці, яе архівах ведамі пра Айчыну, гісторыю, хто хацеў спасцігнуць скрыжальную моц Бацькаўшчыны. Зоська Верас лучыла сабою стагоддзі, эпохі, радаводныя карані. І мы разам з ёю, відушчай і памятушчай, пераходзілі праз хісткія масткі часу, запаўняючы сябе і прастору энергіяй продкаў.

Чытаю ліст Зоські Верас ад 18/IX.81. "Цяпер у мяне сапраўды нічога не засталося ў запасе. Але Вас асабіста з прыемнасцю ў сябе пабачу. Так шмат хацелася б Вам паказаць са старых, старых часоў".

У кнізе Язэпа Лёсіка "Творы" ёсць фотаздымак: "Другая сесія Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый 15.X.1917 г.", дзе можна ўгледзець і воблік Л. Сівіцкай (Зоські Верас). А я ў падарунак ад яе атрымаў аднаго разу ўлётку Беларускага камітэта, які ў тым жа 1917 годзе месціўся ў Мінску на Захараўскай вуліцы, № 18. Ці не сама спадарыня Людвіка складала словы адозвы: "Дык страпяніся, Народ Беларускі! Больш ні закуюць Цябе ў путы жалезныя, бо сам будзеш сваёй доляю кіраваць. Твае выбарныя людзі завядуць такі парадак, які Табе будзе патрэбны — толькі ведай, каго выбіраць. Выбірай тых, каторыя пастаяць за родную зямельку, за свабодную Беларусь". І далей зноў жа лацінкаю: "Грамадзяне Беларусі! Будзем тварыць народнае шчасьце, яно цяпер у нашых руках. Дзеці нашыя будуць дзякаваць нам за свабоду Бацькаўшчыны і з пашанай і любоўю аб нас успамінаць. Клічце вялікі кліч волі па ўсіх кутках свабоднай Беларусі!"

Па сканчэнні тэксту — пазначка: "Прачытаўшы — аддай суседу". Што я і раблю гэтым разам.

Аднадумцы Л. Сівіцкай, апантаныя адраджэнцы, і нас прыклікаюць з 80-гадовай далечы: "Браты! Будуйце сваю сьветлую будучыню. Пакажэце ўсяму сьвету, што жыве



Беларусь..." То як жа могуць "надакучыць" юбілеі Зоські Верас, якія кожны раз дапамагаюць згадаць светлае імя падзвіжніцы, апантанае змагаркі за "вялікае сьвята свабоды".

Тым больш, што ў сёлетняе 105-годдзе ўліваюцца і такія юбілейныя даты яе доўгага, пакручастага жыцця: 90-годдзе першай публікацыі ў часопісе Кіеўскага жаночага камерцыйнага вучылішча "Подснежник" (а пачала пісаць "наіўныя, дзяцінныя" апавяданні і вершы ў 9—10-гадовым узросце), 80-годдзя з таго часу, як Л. Сівіцкая пачала падпісваць псеўданімам Зоська Верас свае допісы ў мінскую газету "Вольная Беларусь" (публікацыі ў "Нашай ніве" падпісвала псеўданімам Мірко), 70-годдзе ад пачатку заснавання ёю дзіцячай часопісі "Заранка", 30-годдзе ад пачатку новага этапа літаратурна-грамадскага жыцця пасля "духовага летаргічнага сна". У сваёй "Аўтабіяграфіі" Зоська Верас згадвала: "Разбудзіў мяне Арсень Сяргеевіч Ліс. Ён і намовіў пісаць успаміны".

Дастасуецца да пакручастых жыццёвых сцежак Зоські Верас і яшчэ адна дата. Сёлета споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Фабіяна Шантыра (1887—1920) — першага мужа Людвікі Антонаўны Сівіцкай, сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, аўтара "Нашай нівы", "Вольнай Беларусі", "Дзянніцы", сябра першага ўрада Савецкай Беларусі. 33-гадовы Шантыр загінуў "пры нявысветленых абставінах". Недзе мне давялося прачытаць, быццам Шантыр быў арыштаваны разам з Цішкам Гартным. Апошняму нібыта ўдалося выбавіцца з расстрэльнай камеры чырвонаармейцаў і пераслаць паратоўную тэлеграму ў Маскву...

Знамянальна, што 105-годдзе Зоські Верас, былой гродзенскай гімназісткі, адзначалася таксама ў гімназіі, у Мінскай гімназіі № 204. Сама Зоська Верас дапамагла стварыць некалькі школьных музеяў. Па яе прыкладу я сам спрычыніўся да з'яўлення ў гімназіі музея Максіма Багдановіча. І клуб сяброў музея распачаў сваю дзейнасць ушанаваннем самага блізкага чалавека Максіму-Кніжніку, якая і праводзіла паэта ў самотную ялцінскую дарогу. Данута Бічэль у сваім нядаўнім вершы пісала пра гэтую падзею так:

**Максім з Людвікай у ваенным**
**Мінску.**
**Зіма суровая, расстанне**
**блізка.**

*("Максім і Людвіка").*

Іх сімвалічная сустрэча адбылася амаль праз 80 гадоў у згаданай гімназіі № 204, якая, паводле слоў дырэктаркі Алены Кабаковіч, хоча насіць імя М. Багдановіча. І музей тут узнік саматугам. Ідэя мець свой музей запаланіла і гімназістаў, і іх бацькоў. Не атрымаўшы аніякай староннняй падтрымкі, дасканалы багдановічаўскі музей зладзілі талакою! Апантанасць, роўная апантанасці і ўзнёслай дабрадзейнасці як Максіма Багдановіча, так і яго спадкаемкі Зоські Верас.



Ах, як усцешна было назіраць за дзеяй прасветленых і натхнёных гімназістаў, якія адчувалі сябе пераемнікамі тых, хто так самааддана паслужыў Беларускай ідэі, паслаў у бязмежную даль згукі Бацькаўшчыны.

Так, гэта было свята Зоські Верас, Максіма Багдановіча. І, гледзячы на ўдзельнікаў літаратурна-музычнай імпрэзы, верылі, што ў гэты дзень "...жыццёвая іх сіла Збудзілася і буйна ўскаласіла..." Дзеці агучылі фальклорныя запісы самой Зоські Верас (удала выканана "Сівая бабулька"), прадэкламавалі яе творы з нядаўна выдадзенай хрэстаматыі "Беларуская дзіцячая літаратура", перад прысутным у зале аўтарам Уладзімірам Скарынкіным прачыталі яго верш "Юбілейнае пасланне Зосьцы Верас"... Выступіў перад шчаслівымі гімназістамі і той самы "будзіцель" знакамітай вілянчанкі — доктар Арсень Ліс...

Тут жа ў шыкоўна аздобленай зале гімназіі дзеці змаглі паглядзець імправізаваную выставу з рукапісамі Зоські Верас, публікацыямі пра яе.

І найбольш — да гонару газеты — з "Голасу Радзімы". Пра пісьменніцу (а яна прынята ў Саюз пісьменнікаў з рэкамендацыі незабыўнага Генадзя Каханоўскага ў 1982 годзе), пра дзячку на грамадскай і культурнай ніве пісалі Сяргей Новік-Пяюн, Янка Саламевіч, Уладзімір Содаль, Зянон Пазьняк, Фёдар Янкоўскі, Вольга Іпатава, Уладзімір Ягоўдзік, Валянціна Аколава, Дзіяна Чаркасава, Алесь Бачыла і многія, многія іншыя. Толькі эпісталярная спадчына Зоські Верас (лісты, цыдулкі ад яе і да яе) змяшчае каля 10 000 адзінак! Пасля яе смерці ў 1991 годзе прысутнасць гэтага творцы ў розных дзяржаўных і недзяржаўных выданнях даволі значная. Але найбольш поўнае выданне твораў Зоські Верас "пад адной стрэшкай" адбылося яшчэ пры жыцці пісьменніцы. Гэта кніга "Каласкі" ("Юнацтва", 1985 год) з прадмовай Ніла Гілевіча і пасляслоўем Янкі Саламевіча. У 1992 годзе Галіна і Лявон Луцкевічы (дачка і зяць Людвікі Антонаўны) пісалі мне: "У сувязі са 100-гадовым юбілеем Зоські Верас мелі быць выдадзены яе ўспаміны. Ініцыятарам быў Янка Саламевіч. Нам стала вядома, што гэтая ініцыятыва, мабыць, ня будзе рэалізаваная..."

Яна, гэтая магчымасць, не спраўджана па сённяшні дзень. А што, калі павучыцца на прыкладзе гімназіі № 204 і выдаць спадчыну Зоські Верас талакою? Скарынаўскі цэнтр яшчэ летась заснаваў выдавецкую серыю "Творцы беларускага замежжа" і выпусціў у свет зборнік 100-гадовага Эдварда Вайвадзіша з сумежнага латгальскага краю. Самы час цяпер для творцы з віленскага краю. І неабавязкова чакаць чарговага юбілею. Хаця сваімі напамінальнымі датамі Зоська Верас нам, па праўдзе, не надакучыла.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

**НА ЗДЫМКАХ: у 204-й мінскай гімназіі адбылася вечарына, прысвечаная 105-й гадавіне з дня нараджэння Зоські Верас.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ВЕРАС — ПРЫГОЖАЯ КВЕТКА

*Я не баюся жыццёвай*
*буры,*
*Хоць добра знаю яе шум*
*пануры,..*
*Больш чым цялеснай*
*баюся смерці —*
*душой умерці.*

**Зоська ВЕРАС. "Я не баюся". 1915 г.**

У Таварыстве беларускай культуры ў Вільні адзначылі 105-годдзе з дня нараджэння беларускай пісьменніцы Зоські Верас (Войцік Людвікі Антонаўны). Людвіка Антонаўна нарадзілася 30 верасня 1892 года ў пасёлку Мяджыбаж Лятычаўскага раёна Хмяльніцкай вобласці на Украіне ў сям'і ваеннаслужачага. Бацькі яе паходзілі з Гродзеншчыны. Бацька Антон Сівіцкі лічыў сябе ліцвінам. Спачатку Людвіка Сівіцкая вучылася ў Кіеве. Але раптоўная смерць бацькі змусіла сям'ю пераехаць у Беларусь, на Гродзеншчыну. У Гродне Людвіка Антонаўна скончыла прыватную жаночую гімназію. У дакументах было запісана: паходжанне — "дваранка", таму мела магчымасць вучыцца бясплатна, але адмовілася ад такой прывілеі.

Пачатак XX стагоддзя, абуджалася да самастойнага жыцця Беларусь, фарміравалася нацыянальна свядомая беларуская інтэлігенцыя. У першых радах змагароў за лепшую долю народа, за ажыццяўленне яго мараў была моладзь. Уключылася ў патрыятычны рух і семнаццацігадовая Людвіка Сівіцкая, усвядоміўшы сябе беларускай. Прымала актыўны ўдзел у Гродзенскім гуртку беларускай моладзі (1909—1913), выпісвала для гуртка кнігі з выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца", газету "Наша ніва", дзе друкавалася пад псеўданімам Мірко. У 1914 годзе скончыла агародніцка-пчалярскія курсы ў Варшаве.

Пачалася першая сусветная вайна. Людвіка Антонаўна з маці і іншымі ўцекачамі апынулася ў Мінску, працавала ў "Таварыстве дапамогі ахвярам вайны". У "Беларускай хатцы", дзе яна жыла, кожны вечар збіраліся сябры, каб падзяліцца думкамі, уражаннямі аб пражытым дні. Тут яна пазнаёмілася са Змітраком Бядулем, Ядвігіным Ш., Вандай Лявіцкай, Максімам Багдановічам, Аркадзем Смолічам, іншымі цікавымі людзьмі. Пра гэты перыяд жыцця ў Мінску Зоська Верас напісала ва ўспамінах "Пяць месяцаў у Менску", якія друкаваліся часткова ў "ЛіМ"е, уключаны ў зборнік "На суд гісторыі".

Скончылася вайна, сям'я вярнулася на Гродзеншчыну. Людвіка Антонаўна пачала пісаць дзіцячыя вершы пад псеўданімам Зоська Верас. Зоська — другое імя, Верас — прыгожая кветка, якая цвіце ў верасні. З 1923 года яна жыла ў Вільні, працавала адміністратарам у рэдакцыі газет Беларускай сялянска-рабочай грамады, якая знаходзілася на Віленскай вуліцы, апекавалася палітычнымі вязнямі на Лукішках, насіла перадачы, дамагалася магчымасці перадаваць у камеру кнігі (сярод вязняў былі М. Танк, Антон Войцік).

З 1927 года на працягу трох гадоў Зоська Верас выдавала часопіс для дзяцей "Заранка", у ім друкаваліся С. Новік-Пяюн, Х. Ільяшэвіч і іншыя паэты Заходняй Беларусі. Пазней была рэдактарам часопіса "Пралескі". Яшчэ ў 1924 годзе Зоська Верас выдала невялічкі беларуска-польска-руска-лацінскі батанічны слоўнік. Арыгіналы слоўніка знаходзяцца ў Лонданскай і Нью-Йоркскай бібліятэках. Тады палякі ў водгуках пісалі: "Надзвычай прыгожыя беларускія назовы раслін". А калі выдаваўся батанічны слоўнік Кісялёва, туды ўвайшоў увесь слоўнік Зоські Верас. У Вільні пазнаёмілася з Антонам і Іванам Луцкевічамі, з Браніславам Тарашкевічам і іншымі дзеячамі беларускага адраджэння і стала яго актыўным удзельнікам. Пасля другой сусветнай вайны ў лясной хатцы на краі Вільні, дзе жыла Зоська Верас, збіраліся рэшткі беларускай інтэлігенцыі.

У 1960 годзе зноў "адкрылі" Зоську Верас. Першым прыехаў Арсень Ліс, а пасля шнурком пацягнуліся мастакі, пісьменнікі, артысты, студэнты і проста тыя, хто цікавіўся беларускай гісторыяй і культурай. Былі ў яе У. Караткевіч, У. Содаль, Я. Пархута, Адам Мальдзіс, А. Марачкін, М. Купава, Данчык, В. Целеш. Зоська Верас зусім не чула. Пытанні ёй задавалі пісьмова. Захаваўся сшытак з пытаннямі, напісанымі знакамітымі людзьмі. Гэта ўжо гістарычная каштоўнасць.

Паэты прысвячалі ёй вершы, мастакі стваралі яе партрэты. Апошнія гады Зоська Верас пісала ўспаміны. Яны вельмі каштоўныя і цікавыя. У 1985 годзе выйшла кніга вершаў і апавяданняў для дзяцей "Каласкі", яна напісала ўспаміны пра М. Багдановіча, У. Галубка, Ядвігіна Ш. і іншых. Для дзіцячага тэатра пераклала п'есы з украінскай і рускай моваў. Мне пашчасціла быць у "лясной хатцы" ў Зоські Верас, калі ёй споўнілася 95 гадоў. Тады здымалі фільм пра яе. Мне вельмі запомнілася, яна сказала так: "Вось бяда, дрэнна стала бачыць, не магу чытаць". Доўгае, складанае, але і цікавае жыццё пражыла Зоська Верас. Памерла яна 8 кастрычніка 1991 года, калі ёй споўнілася 99 гадоў і адзін тыдзень, пахавана ў Вільні побач з сынам Антонам Шантырам. Стараннямі сям'і пастаўлены сціплы помнік.

Больш васьмідзесяці гадоў аддала Зоська Верас беларускай справе. Амаль да самага апошняга часу да яе звярталіся па дапамогу і параду, яна была патрэбная. У Саюз пісьменнікаў яе прынялі ў 1982 годзе, калі ёй ужо споўнілася 90. У 1992 годзе, да 100-годдзя з дня нараджэння, павінна была выйсці ў Мінску кніга ўспамінаў З. Верас, але, відаць, трапіла ў рукі несумленнага чалавека, і яе згубілі. Нечая злая рука спаліла і хатку, глінабітную, якую пабудавала Зоська Верас і ў якой жыла амаль да апошняга. Але яе памяццю жывуць кветкі, дрэўцы, пасаджаныя ёю. Кажуць, што душы не паміраюць, а перасяляюцца ў нешта іншае, а можа лунаюць у паветры, берагаюць нас, дапамагаюць жыць. Успамінамі пра Зоську Верас падзялілася яе дачка Галіна Войцік. У беларускай школе імя Францішка Скарыны ў Вільні дзейнічае выстава, прысвечаная жыццю і творчасці Зоські Верас, тут фотаздымкі з архіва сям'і. У пачатковых класах — урокі "каласкі Зоські Верас".

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.

*АНТЫКВАРЫЯТ — ДУХОЎНАЯ І МАТЭРЫЯЛЬНАЯ ПАМЯЦЬ КРАІНЫ*

# З ГАРЫШЧАЎ — НА СВЕТ БОЖЫ

**Сённяшні наш субяседнік, спадзяемся, добра знаёмы многім чытачам "Голасу Радзімы": Уладзімір ГІЛЕП, старшыня Беларускага фонду культуры. Тэма гутаркі — беларускі антыкварыят, яго лёс у цяперашніх, не вельмі спрыяльных для культуры ўмовах.**

*— Дасюль асабіста ў мяне словы "антыкварыят у Беларусі" асацыіраваліся з магазінам "Антыквар", што побач з нашай рэдакцыяй, дзе гандлююць ляжалым танным шырспажывам і посудам 10—20-гадовай даўнасці, дзе валадарыць устойлівы пах лаўкі старызніка. Уладзімір Аляксандравіч, ці ёсць увогуле ў нашай краіне антыкварыят у агульнасусветным разуменні гэтага паняцця?*

— Можаце быць упэўнены, ёсць. Прычым у вялікай колькасці. Дзякуй Богу, не ўсё паспелі вывезці за апошнія дзесяць год безгаспадарчасці і бескантрольнасці. Ёсць і людзі, якія добра ведаюць кошт антыкварыяту.

*— Ці можа кожная старая рэч называцца антыкварнай?*

— Цяжкае пытанне. Але, калі не памыляюся, вывазу за межы Беларусі без спецыяльнага дазволу не падлягаюць усе прадметы, выробленыя да Вялікай Айчыннай вайны.

*— Такім чынам, зробленыя ў трыццатыя гады чаравікі ці галёшы — нацыянальны набытак?*

— Прынамсі, музейны.

Канешне, нярэдка здараецца і такі "антыкварыят", пра які вы згадвалі на пачатку нашай гутаркі. Але калі зацікавіцца гэтай тэмай і ўважліва прайсціся па некаторых мінскіх антыкварных магазінах, можна пабачыць сапраўды унікальныя рэчы. На вялікі жаль, у цяперашні жорсткі час склаліся вельмі неспрыяльныя для антыкварнага руху ўмовы, з-за чаго шмат каштоўных, цікавых экспанатаў не проста не выстаўляюцца на агляд, але нават спецыяльна хаваюцца ў сейфах, куфрах ці на гарышчах — далей ад чужых вачэй. Мне здаецца, сёння задача якраз у тым і заключаецца, каб усё, што звязана з антыкварыятам, перавесці ў нармальнае, цывілізаванае рэчышча, падобна іншым краінам. Паспрыяць паспяховаму вырашэнню азначанай праблемы заклікана заснаванае намі Бюро экспертызы рухомых помнікаў. У прыватнасці, мы маглі б дапамагчы тым, хто мае дачыненне да "антыкварнага" бізнесу (зразумела, толькі на законных падставах), вызначыць дакладны кошт таго, што яны прадаюць ці купляюць, бо звычайна гэтым займаюцца непрафесійныя мастацтвазнаўцы ці навукоўцы.

З нашай дапамогай атрымлівалі б адпаведную інфармацыю і музеі, што зноў-такі рэальна тады, калі антыкварыят "злезе" з гарышчаў і ўрэшце з'явіцца "на людзях" — хаця б у спецыялізаваных магазінах. Пры старой, савецкай, сістэме на ўвесь Мінск існавала адзіная крама, дзе можна было, напрыклад, здаць ікону XVIII стагоддзя. Але мастацкі музей заўсёды меў там "свайго" чалавека, які паведамляў пра цікавыя паступленні. З музея прыходзілі спецыялісты і вызначалі каштоўнасць рэчы. Калі сыходзіліся на тым, што яна унікальная, музей яе купляў. Сёння, на вялікі жаль, гэтага ўжо не робіцца. Па-першае, немагчыма "ахапіць" усе лаўкі, часам паўпадпольныя, што гандлююць антыкварыятам, па-другое, зараз у музеяў няма і неабходных грошай.

*— Вы прапануеце зноў цэнтралізаваць антыкварную справу?*

— Не зусім так. Я прапаную стварыць пэўны цэнтр, дзе прафесійна, кваліфікавана падыходзілі б да кожнай антыкварнай рэчы, дзе ўлічваліся б як прыватныя інтарэсы асобных калекцыянераў і ўладальнікаў антыкварыяту, так і нацыянальныя, культурныя інтарэсы дзяржавы. У нашым бюро экспертызы можна вызначыць дакладны кошт, аўтарства, школу, месца стварэння і г. д., скласці своеасаблівы пашпарт рэчы. Мы прыцягнулі да супрацоўніцтва лепшых мастацтвазнаўцаў і рэстаўратараў, якія маюць права даваць адпаведныя заключэнні. Увогуле, для ацэнкі кожнай рэчы будзе склікацца асобная камісія — як бачыце, падыход самы сур'ёзны. І, канешне ж, за сваю работу, вялікую і карпатлівую, усе спецыялісты павінны атрымліваць адпаведны ганарар. Калісьці структура, падобная на наша бюро, існавала пры мастацкім музеі, але там людзі працавалі практычна задарма. Лічу такі падыход прынцыпова няправільным, тым больш у сітуацыі, калі музейныя навукоўцы атрымліваюць мізэрную па цяперашніх часах зарплату.

І яшчэ адна важная акалічнасць. Пры складанні пашпарта антыкварнай рэчы па жаданню заказчыка мы гарантуем канфідэнцыяльнасць. Але наяўнасць такога пашпарта проста неабходная: без яго антыкварная рэч — проста рэч, пасля ж складання адпаведнага дакумента — яна ўжо помнік гісторыі і культуры.

*— Гэта агульнапрынятая практыка ці беларускі наватвор?*

— Гэта агульнапрынятая ва ўсім свеце практыка.

*— Адкрыццё падобнага бюро, пэўна, мае сэнс, калі ўжо сфарміраваўся і неяк функцыяніруе антыкварны рынак?*

— Рынак фарміруецца, і грамадству трэба "не ўпусціць" яго з самага пачатку.

*— Любы антыкварыят каштуе вялікіх грошай. Ці актуальна ўсё гэта ўвогуле для сённяшняга беднага ў сваёй масе беларуса? Можа, пакуль купля-продаж антыкварыяту — толькі для заезджых гасцей?*

— Безумоўна, антыкварыятам на Беларусі цікавіцца не так ужо шмат яе грамадзян. Але асноўны рух антыкварыяту ажыццяўляецца ўсё ж такі ў межах нашай краіны. Хаця, канешне, шэраг рэчаў купляецца і з мэтай вывазу. Праўда, для гэтага неабходны афіцыйны дазвол улад. Хачу зноў падкрэсліць: задача ў тым і заключаецца, каб не дапусціць разрабавання нацыянальных каштоўнасцей, каб гандаль антыкварыятам не апусціўся на крымінальны ўзровень.

*— Цікава, які антыкварыят часцей за ўсё "ўсплывае" на Беларусі? Увогуле краіна наша даволі вясковая, гарады былі разбураны падчас войнаў. Што ж такое магло захавацца, як вы кажаце, на гарышчах і ў куфрах нашых грамадзян?*

— А цэрквы, касцёлы, якія былі разрабаваны? Дзе, вы думаеце, усё гэта асела? Па прыватных калекцыях. І мне даводзілася такія бачыць. Нярэдка іконы скупляліся літаральна за капейкі. А потым тысячамі адпраўляліся на Захад, у Расію. Аднак і дома пакуль засталося нямала. Акрамя ікон, беларускі антыкварыят прадстаўлены кнігамі, музычнымі інструментамі, мэбляй.

*— Мэбляй?*

— Так, шмат яе трапіла на Беларусь пасля вайны ў якасці трафеяў. Зараз гэта вельмі каштоўныя рэчы. У прыватных руках знаходзіцца нават радзівілаўская мэбля. Хаця ёй месца — у Нясвіжы. А знакамітая радзівілаўская бібліятэка раскідана па ўсім свеце. Трэба гэтым займацца ўладам, сур'ёзна займацца. Пакуль жа дзяржава займае пазіцыю пабочнага назіральніка.

*— Вы чакаеце дапамогі ад дзяржавы?*

— У дзяржавы дапамогі — грошай ці чаго іншага я не прашу. Мне і маім калегам у Фондзе культуры патрэбна толькі адно — умовы, якія б далі магчымасць працаваць на культуру, самім зарабляць, пашыраць нашу вытворчасць.

*— На вашу думку, антыкварная справа — гэта састаўная частка культуры ці больш — бізнес?*

— Збіральнікі, калекцыянеры — канешне, культура. Але культура немагчымая без пэўнага бізнесу. Я б не падзяляў гэтыя паняцці. Антыкварная справа — частка нашай гістарычнай памяці, духоўнай і матэрыяльнай, частка нашага жыцця.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# РЭКАНСТРУКЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЦЯ Ў ЭМІГРАЦЫІ

Кожная кніга беларускай эміграцыі (што б гэта ні было — проза, паэзія, публіцыстыка, навуковы даслед) успрымаецца як дакумент. Тым болей дакументам уяўляецца здабытак мемуарнага пісьма. Як, прыкладам, і кніга Барыса Рагулі "Беларускае студэнцтва на чужыне". Што гэта за выданне? Які абсяг можна адкрыць у мінулым беларускай эміграцыі, дзякуючы кнізе Барыса Рагулі? Некаторым чынам патлумачвае гэта сам аўтар у кароткай прадмове "Колькі слоў на пачатку": "Чаму я ўзяў на сябе абавязак напісаць успаміны пра беларускае студэнцтва на эміграцыі? Ня так даўно я меў гутарку адносна гісторыі беларускага студэнцтва ў Лювэне з доктарам Янкам Запруднікам, адным з актыўных студэнтаў таго перыяду. Ён мне шчыра сказаў, што да сёння ня ведае, як мы трапілі ў Лювэн, як мы знайшлі гэтае месца і хто нам дапамог. Я зазначыў, што Кастусь Мерляк у сваіх успамінах прыгадаў пра Лювэн, але, ня ведаючы дэталяў, падаў фальшывую інфармацыю, прадстаўляючы Лювэн як тварэньне вуніяцкай царквы. Янка Запруднік адказаў мне, што нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо нават тагачасныя студэнты таксама мала ведаюць, як усё было ў сапраўднасьці. Тады ж ён мне параіў напісаць успаміны пра Лювэн, каб засьведчыць праўду аб важным этапе ў гісторыі беларускага студэнцтва на Чужыне".

Але ж, паколькі асноўны аповяд Барыс Рагуля вядзе ў дачыненні да Лювена, то, думаецца, да месца будзе тлумачэнне, што ж гэта за пункт такі ў беларускай эміграцыйнай прасторы. Тыповы універсітэцкі горад. Насельніцтва ў ім каля 60 000 чалавек ды яшчэ — 25 000 студэнтаў. Лювен знаходзіцца на фламандскай тэрыторыі Бельгіі. Заснаваны універсітэт тут быў у палове XV стагоддзя. У багатую на гісторыю навучальную ўстанову і занёс няпросты паваенны лёс нашых суайчыннікаў. Б. Рагуля, падрабязна асвятляючы ўсе акалічнасці жыцця маладых людзей, эмацыянальна, дакладна апісвае і пакуты-гароты на чужой зямлі, і настрой, паводзіны студэнтаў. Уся Еўропа па тым часе судакранулася з вайною, таму ніхто надта і не сустракаў, не прымаў беларусаў з распасцёртымі абдымкамі. Між іншым, варта было забыцца на беларускасць, абазвацца палякамі або прыкінуцца да рускай эміграцыі, як ураз знайшлося б і месца, і падтрымка, і перспектыва нейкая вымалявалася б. Ды беларусы не здраджвалі сабе, не шукалі прасцейшых сцежак-дарожак. Праз многія і многія складанасці прабіваліся да навукі. Вясковыя ў большасці сваёй дзеці, яны вызначаліся надзвычайнай цягай да адукацыі. Можна толькі падзівіцца, як настойліва моладзь, пазбаўленая дому, айчыны, вывучала чужыя мовы, адольвала самыя складаныя навуковыя вяршыні.

І, пэўна ж, адольвала паспяхова. Угледзьцеся, удумвайцеся, кім сталі беларускія студэнты з Лювена. Янка Запруднік — журналістам, вучоным, у 1969 годзе атрымаў ступень доктара гісторыі пры Нью-Йоркскім універсітэце, Анатоль Занковіч — доктарам медыцыны, Янка Жучка — галоўным рэдактарам часопіса "Сталь", Аляксей Арэшка — доктарам хімічных навук. У кнізе Барыса Рагулі ёсць асобны раздзел — "Старонкі жыцьця". У ім пададзены біяграфіі беларускіх студэнтаў. І да якога лёсу ні дакраніся — яго носьбітамі з'яўляюцца людзі дзеяздольныя, энергічныя. Гэта, безумоўна, выклікае сімпатыі, прымушае шукаць у жыцці далёкіх суайчыннікаў узоры для пераймання. Цяжкасці, многія перашкоды выкрышталізавалі з беларусаў, адрынутых-адкінутых Айчынай, сапраўдных асоб, здольных годна прадстаўляць Беларусь у свеце.

З кнігі вынікае і наступнае. Годна прадстаўляючы Беларусь, эмігранты яшчэ і жылі Беларуссю, беларускім духам. Чытаем у Барыса Рагулі: "1 кастрычніка 1951 лювэнцы сьвяткавалі пачатак новага акадэмічнага году. Як адзначала газета "Бацькаўшчына", паводле унівэрсытэцкай традыцыі год пачаўся ўрачыстым шэсьцем прафэсараў у тогах ды студэнтаў са сьцягамі розных студэнцкіх арганізацыяў. Нашая група выдзялялася белымі студэнцкімі шапкамі з крыжам Ярылы і бел-чырвона-белым сцягам. Шэсьце закончылася ва унівэрсытэцкай залі, дзе рэктар аб'явіў пачатак новага акадэмічнага году. Нашыя студэнты прыцягнулі ўвагу бэльгійцаў з розных акадэмічных ды ўрадавых колаў. Вялікае поле інфармацыі пра Беларусь!".

Ізноў жа раздзел біяграфій былых студэнтаў — выразнае сведчанне зацікаўлення беларускай справай. Прыкладам, Янка Сурвіла — старшыня Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады. Вельмі актыўны ў беларускай грамадскай і палітычнай дзейнасці Міхась Навумовіч. Выдаваў ён у Парыжы беларускі студэнцкі часопіс "Моладзь". Мікола Латушкін быў прадстаўніком ад Беларускага кангрэсавага камітэта ў штаце Ілінойс, уваходзіў у ініцыятыўную групу арганізацыі Беларускага праваслаўнага прыходу Св. Юрыя ў Чыкака. І так літаральна — у дачыненні да ўсіх лёсаў. Ці нам у мітусні жыццёвай, у калізіях нашай айчыннай рэчаіснасці стае падобнай грамадскай актыўнасці?.. Пытанне, канешне ж, рытарычнае.

Кніга Барыса Рагулі адметная яшчэ і вось чым. Аўтар доследу "Беларускае студэнцтва на чужыне", падрабязна падаючы жыццяпісы суайчыннікаў, скіроўвае ўвагу мясцовых збіральнікаў памяці да сваіх землякоў. У кнігу варта зазірнуць навагрудскім і слонімскім краязнаўцам, настаўнікам заходніх раёнаў Віцебшчыны і Міншчыны. Тым болей, што зараз ідзе збіранне, складанне кніг "Памяць", прысвечаных кожнаму раёну. Дык чаму ж на старонках раённых "энцыклапедый" не павінна быць нарысаў, асобных артыкулаў, распавядаючых пра беларускіх эмігрантаў з тае альбо іншае мясціны? Праўда, і тут пытанне можа застацца ўсяго толькі пытаннем. Падрабязнасці пра эміграцыю (як, між іншым, пра рэпрэсіі і рэпрэсіраваных) становяцца часам непажаданымі, непатрэбнымі. Не патрапіў жа ў адну з гісторыка-дакументальных хронік нарыс пра Пятра Бітэля. І гэта пра пісьменніка, паэта, перакладчыка, які пераклаў на беларускую мову "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча, іншыя творы генія польскай літаратуры. Гулагавец, святар Пятро Бітэль не варты, атрымліваецца, памяці сучаснікаў? Наўрад ці нашы наступнікі падзякуюць за такую выбарнасць.

Колькі слоў пра самога Барыса Рагулю. Нарадзіўся 1 студзеня 1920 года ў Турцы. Вучыўся ў беларускай гімназіі, якую закрылі ў 1935 годзе. Перайшоў у польскую гімназію імя Адама Міцкевіча. І хаця да беларусаў там ставіліся зняважліва, Барыс Рагуля сведчыць: "У беларускай гімназіі я ведаў, што я беларус, а ў польскай я адчуў сябе беларусам". Скончыў гімназію ў 1938 годзе, здаў конкурсныя экзамены на медыцынскі факультэт універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Але вучыцца не далі, забралі ў польскае войска. Вайна. Палон. Уцёкі. Савецкі палон. І зноў — уцёкі. Эміграцыя. Універсітэт у Лювене. З 1954 года — у Канадзе. Працуе ўрачом. Удзельнічае ў прэстыжных міжнародных медыцынскіх кангрэсах. З 1971 года яшчэ і выкладае ў медыцынскай школе. З 1990-га — медыцынскі дырэктар дапамогі дзецям, ахвярам Чарнобыля. Рупіцца над рэалізацыяй ідэі па пабудове дзіцячай клінікі ў Мінску паводле канадскіх стандартаў. І, канешне ж, — актыўны ўдзельнік беларускага жыцця. А зараз — і яго даследчык.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# МІРСКІ ЗАМАК — ПОМНІК СЛАВУТЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Купіў буклецік. У ім пададзена гісторыя Міра і замка. Упершыню Мір упамінаецца ў пісьмовых крыніцах 1395 года. Затым паселішча пераходзіла да розных уладальнікаў. Сярод іх былі і Радзівілы.

Прачытаў такое: "1490. Мір перайшоў да прадстаўніка старажытнага беларускага роду Юрыя Ілініча, які на рубяжы XV—XVI стагоддзяў пачаў будаваць замак у гатычным стылі (з 1496). Гэта было прыватнаўласніцкае ўмацаванне, характэрнае для Вялікага Княства Літоўскага".



Як і над іншымі замкамі-ўмацаваннямі, над Мірскім прашумелі вятры гісторыі. Былі ў яго і гады росквіту, і заняпаду. Прыкметны такі факт: Караль Станіслаў Радзівіл па мянушцы Пане Каханку (жыў у 1725—1790 гадах) прымаў у палацы апошняга польскага караля Станіслава Панятоўскага.

Не мінулі замак войны. Разбуралі яго войскі цара Аляксея Міхайлавіча, шведскія Карла XII, французскія Напалеона. У час апошняй вайны ў замку размяшчаўся лагер для палонных савецкіх салдат і яўрэйскае гета. А пасля вайны жылі людзі, якія засталіся без даху над галавой.

Усё гэта прывяло да заняпаду выдатнага помніка архітэктуры Беларусі, сфарміраванага пад уплывам готыкі, рэнесанса, барока. Упершыню я пачуў пра яго рэстаўрацыю ў 1962 годзе. Прамінула вунь колькі часу, помнікі архітэктуры ў Вільнюсе даўно прыведзеныя ў парадак, а ў нас... Ні палац Радзівілаў у Нясвіжы, ні Мірскі замак, ні шэраг іншых збудаванняў пакуль што не рэстаўрыраваны. На такое маё меркаванне старшыня камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Д. Бубноўскі адказаў:

— Доўга "разварушваліся". Але за апошнія сем гадоў шмат зроблена.

Дзмітрый Бубноўскі родам з Міра. Гэта таксама паспрыяла паскарэнню тэмпаў работ. Што ні кажы, а хочацца чалавеку, каб на яго радзіме сталі не рэшткі цудоўнага замка, а сам замак — такі, які быў у даўнія часы.

Ужо шмат для таго зроблена. Адрэстаўрыраваны дзве вежы — заходняя і паўднёва-заходняя. Глядзець на іх прыемна: магутныя, строгія па форме. У паўднёва-заходняй размешчаны экспанаты. Стромая лесвіца вядзе з паверха на паверх, а ў залах — вочы разбягаюцца. На здымках нашага фотакарэспандэнта вы бачыце найбольш цікавыя рэчы, якія выстаўлены для паказу экскурсантам.



Але і зрабіць трэба яшчэ шмат. Па апошнім праекце належыць аднавіць паўночную і ўсходнюю часткі замка. Паўночная ўжо набыла прыстойны знешні выгляд. Чырвоная чарапіца, светлая сцяна, арыгінальнай формы коміны. Усё гэта ўражвае. Вялізная частка замка прызначана пад музей. У ім будуць дэманстравацца самыя разнастайныя прадметы даўніны, уключаючы партрэты Радзівілаў, зброю, кнігі. На самым верхнім паверсе размесціцца канферэнц-зала на 200 месцаў.

На ўсходняй частцы замка таксама вядуцца работы вытворчым аб'яднаннем "Белрэстаўрацыя" пад кіраўніцтвам прараба Б. Кракавецкага. Тут будуць размешчаны зала для сустрэч вядомых людзей, замежных палітыкаў, для падпісання міжнародных дамоваў, гасцініца, рэстаран, бар.

Вельмі важна, што ўвесь замак будзе ацяпляцца. Толькі ў дзвюх згаданых вежах (паўднёва-заходняй і заходняй) ацяпленне не будзе: у іх размешчаны экспанаты, якім патрэбны пастаянны, невысокі тэмпературны рэжым.

Праз некалькі год Мірскі замак будзе адрэстаўрыраваны. Яго наведвальнікам — беларускім і замежным — будзе паказаны ва ўсёй красе непаўторны помнік архітэктуры Беларусі.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**Здымкі ў Мірскім замку зроблены фотакарэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ.**







## АДНАТОМНІК МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Яго выпусціла ў свет выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў серыі "Школьная бібліятэка". У аднатомніку змешчаны два найбольш вядомыя творы класіка нацыянальнай літаратуры — раман-хроніка "Віленскія камунары" і аповесць "Камароўская хроніка", шлях да сучаснага чытача якіх, як і ўсяго напісанага М. Гарэцкім, быў не такім простым. Прынамсі, "Віленскія камунары" асобнай кнігай выйшлі толькі ў 1965 годзе. Доўга чакала свайго часу і "Камароўская хроніка", якая была апублікавана ў часопісе "Полымя" ў 1966 годзе.

Прадмову да кнігі напісаў доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Міхась Мушынскі.

## ЗААПАРКУ — 70 ГАДОЎ

У апошнія дні верасня адсвяткаваў свой 70-гадовы юбілей старэйшы і самы буйны на Беларусі заапарк у Гродне.

Створаны ён быў у 1927 годзе на сродкі гарадскога таварыства аматараў прыроды і па ініцыятыве выкладчыка мясцовай гімназіі Яна Кахаaccount Каханоўскага. Зараз заапарк, які насяляюць звыш 500 відаў жывёл, штогод наведваюць больш за 500 тысяч чалавек. Шкада толькі, што не хапае месца і памяшканні ў асноўным старыя.

## ФАЛЬШЫВАЯ СТОТЫСЯЧНАЯ КУПЮРА

У Беларусі пачасціліся выпадкі падробкі разліковых білетаў Нацыянальнага банка вартасцю 100 000 рублёў.

Колькасць такіх фактаў перавалiла ўжо на другі дзесятак. У сувязі з гэтым галоўная фінансавая ўстанова заклікала работнікаў банкаўскай сферы да пільнасці. Яна разаслала адпаведным структурам пісьмо, у якім гаворыцца, што ўсе гэтыя выпадкі ў асноўным зафіксаваны ў Брэсце. А падробка выраблена спосабам каляровага крапельна-струменнага друку на прынтэрных устройствах для ЭВМ і мае аднолькавыя серыйны нумар ДЕ 3693914.


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).





НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.





Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1438.
Падпісана да друку 13.10.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.